# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1973
Студзень-
Люты-
Сакавік
Год XXI
№ 1 (135)

ЗЬМЕСТ:

ДОБРАЯ НАВІНА (КАТЭХЭЗЫ) • ЕЎЕЎСКІ БУКВАР 1618 Г. • КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА НА БЕЛАРУСІ І БЕЛАРУСКАЯ МОВА • НА КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ • З ЦАРКОЎНАГА ЖЫЦЬЦЯ • З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ • ПІШУЦЬ ДА НАС • ВЕРШЫ • ДУМКІ З КНІЖАК • АДКАЗНЫМ ЛЮДЗЯМ ПАД РАЗВАГУ • ПРЫСЛОЎІ І ПРЫМАЎКІ • ПРЫГОДНЫЯ ЖАРТЫ.

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1973 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — £ 1-00.
У іншых краінах у суме раўнаважнай £ 1-00.

---

**ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:**

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave, Toronto, Ont. 560 Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:
Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12, 8 HY., Gt.Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


ON GOD'S HIGHWAY

Year XXI January—February—March № 1 (135)
1973

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE,
LONDON, N. 12, 8 HY ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XXI СТУДЗЕНЬ—ЛЮТЫ—САКАВІК № 1 (135)

*а. Т. Падзява.*

# Добрая навіна

ПРАДМОВА

Патрэба новай катахізмоўкі ў беларускай мове вельмі адчуваецца. Каталікі беларусы падрыхтавалі да друку новую катахізмоўку, аднак яна, нажаль, яшчэ ня можа свабодна друкавацца на нашай дарагой Радзіме! Таму мы пастанавілі і ў радыё і ў «Божым Шляхам» перадаваць паміж іншым такжа і катахізмы.

Як ведама, катахізмам называецца навучаньне праз пытаньні і адказы. Гэтак яго звалі грэкі, бо па грэцку «катахізм» значыць «рэха». Калі гукнуць у лесе, дык рэха жыва адгукнецца, паўтараючы нашыя словы, быццам хацела нам адказаць. Перадаючы катахізмы, мы будзем такжа даваць важнейшыя пытаньні і адказы на іх, каб нашыя чытачы змаглі нават запісаць іх сабе і з часам мець падручную катахізмоўку.

*

Найперш мы будзем гаварыць аб гісторыі выратаваньня (збаўленьня). Аб чым гаворыць гісторыя выратаваньня?

Гісторыя выратаваньня, або збаўленьня, гаворыць нам аб падзеях, праз якія Бог прыводзіў і вядзе людзей да Сябе.

## I. БОГ ГАВОРЫЦЬ ДА ЧАЛАВЕКА

(ПЕРШАЯ КАТЭХЭЗА)

У Другой Кнізе Макавеяў (7, 28) мы чытаем: «Паглядзі на неба і на зямлю . . . зьвярні ўвагу, што Бог стварыў іх з нічога». А ў Кнізе Выхаду (20, 2) Бог кажа да жыдоўскага народу: «Я ёсьць твой Бог».

А хто такі ёсьць Б О Г ? Кожны з нас ужо шмат чуў аб Ім, найчасьцей ад сваей маткі. У вольным сьвеце аб Богу навучаюць нават у школах. І наогул нават малыя дзеці ведаюць, што Бог стварыў усё, што бачым навокал сябе. І Бог стварыў мяне і цябе: Бог ёсьць наш СТВАРЫЦЕЛЬ.

І БОГ любіць нас. А Яго ня любяць толькі тыя, што Яго яшчэ не пазналі і нічога аб Ім ня ведаюць.

Каб паказаць чалавеку сваю любоў, Бог гаварыў да людзей і аб'яўляўся ім.

Перад усім Бог гаворыць да чалавека праз гэты сьвет, які Ён стварыў. Бо с ь в е т нас вучыць, што Бог ёсьць і што Бог ёсьць вялікі, дасканалы і магутны, калі мог стварыць такі сьвет. Гэтак, наглядаючы і пазнаўшы сьвет, чалавек можа пазнаваць і Бога.

Аднак Бог гаварыў да людзей яшчэ і шмат яснейшым спосабам. Ужо на самым пачатку аб'явіў Бог Сябе першым людзям. А пасьля ўжо — шмат пазьней — гаварыў і паклікаў Абрагама, з якога паўстаў увесь «выбраны народ» — Божы народ.

Бог узяў пад апеку выбраны народ, кіраваў ім і аб'яўляў яму недаступныя для чалавека праўды, якіх людзі самі ніколі не пазналі б. Гэтак Бог прыгатаваў людзей на прыход Свайго Сына, Ісуса Хрыста. А Сын Божы стаўся Чалавекам, нарадзіўся з Дзевы Марыі, памёр і ўваскрос, каб усе людзі маглі знайсьці пэўны шлях да Бога. Таму, што Бог ёсьць Л ю б о ў і Бог сваё шчасьце знаходзіць у Любові; дык і людзей стварыў такімі, што і яны ні ў чым іншым шчасьця знайсьці ня могуць.

Пасьля гэтага Божы Сын вярнуўся да свайго Айца, але Ён і далей памагае людзям ратавацца. Дый абяцаў у канцы прыйсьці яшчэ раз, каб ужо на заўсёды злучыць людзей з Сабою.

Усе гэтыя падзеі, карысныя для чалавека, мы называем *Гісторыяй збаўленьня.*

І ўсё, што Бог зрабіў для людзей перад Нараджэньнем Ісуса Хрыста запісана ў кнігах Старога Закону або Запавету. А тое, што Бог даканаў для нашага збаўленьня праз Хрыста, запісана ў кнігах Новага Закону або Запавету. Сьвятое Пісьмо ёсьць голасам Бога, Які гаворыць да людзей і заклікае іх да лучнасьці з Ім.

Мэтай катахізму і ёсьць памагчы людзям пазнаць і зразумець, што зрабіў Бог, каб выратаваць людзей.

А нашым адказам Богу будзе ахвотна пазнаць усё, што Бог даканаў для мяне і што робіць для нас у гісторыі збаўленьня.

Добрым знакам для меня будзе тое, што мне моцна захочацца самому сказаць ад сябе свае слова Богу, інакш кажучы, п а м а л і ц ц а ! Але можа я ня буду ведаць, як гэта зрабіць? Аднак ёсьць на гэта добрая рада: на гэтую нагоду Сьвятое Пісьмо мае для нас багаты запас гатовых малітваў, якія будзем падаваць у канцы кожнай катэхэзы. І цяпер падаём некалькі вершаў з 97-га Псальму (1-3) дзеля прыкладу, як можна добра маліцца.

Калі б мы жадалі сказаць Богу нешта падобнае сваімі словамі, дык гэта была б яшчэ лепшая малітва і карысьць з яе большая. А тымчасам вучыць нас добрай малітвы Сьвятое Пісьмо:

— Сьпявайце Госпаду новую песьню, бо Ён учыніў цуды!.. Госпад аб'явіў спасеньне сваё.

— Выхваляйце Госпада на гусьлях і галосным пяяньнем!

— На трубах і гукам рагоў, спраўляйце ўрачыстасьць прад Царом-Госпадам!

— Няхай забушуе мора і ўсё, што яго напаўняе, сусьвет і ўсё, што на ім жыве!

— Няхай пляскаюць у далонькі рэкі, а ўсе горы няхай радуюцца!

— Перад аблічам Госпада, бо Ён ідзе судзіць зямлю. Сусьвет Ён будзе судзіць справядліва і народы па праўдзе...

*

Калі хто жадае запісаць першае пытаньне і адказ на яго, можа гэта рабіць цяпер. Паўтараем:

ПЫТАНЬНЕ: — Аб чым гаворыць гісторыя збаўленьня?

АДКАЗ: — Гісторыя збаўленьня гаворыць нам аб падзеях, праз якія Бог вядзе людзей да Сябе.

## ДОБРАЯ НАВІНА

### (ДРУГАЯ КАТЭХЭЗА)

### II. АДКАЗ ЧАЛАВЕКА НА БОЖЫ ПОКЛІК

У Сьвятым Пісьме ёсьць запісаныя здарэньні, у якіх чытаем, як Бог гаварыў да выбраных людзей, а гаварыў зусім па людзку, як чалавек да чалавека. Гэтак гаварыў Бог да Абрагама, да Майсея, да пракарокаў і да іншых. Усе яны адклікаліся на Божы голас.

А чаму Бог ня кліча так кожнага чалавека, а толькі некаторых? Ці можа таму, што любіць адных больш, а другіх менш? Як і мы больш любім прыгажэйшых, ці разумнейшых, ці лепшых...

Але перад Богам усе людзі роўныя і годныя, бо не глядзіць на іх паводле капрысу, або паводле патрэбы сваей ці чалавечай; а чалавека любіць, як свае тварэньне і дзіця. Калі возьмем параўнаньне з жыцьця, дык нельга сказаць, што чалавек любіць больш міску чым лыжку. Кожная пасудзіна зьмяшчае столькі, колькі магчыма...

Цяпер мне ня цяжка будзе зразумець, чаму Бог для мяне выбраў бацькоў на Беларусі, а не ў Кітаі, ці Індыі і чаму я нарадзіўся ў сям'і хрысьціянскай, а не ў жыдоўскай.

І вось я, як сьвятар, пішу цяпер катэхэзу: гэта ёсьць мой адказ на Божы голас, які я ўвесь час чую, хоць і не так яўна, як чуў той Абрагам і прарокі, бо чую Божы голас толькі «вухам» веры; але мне і гэтага досыць, каб рабіць тое, чаго ад мяне Бог вымагае. А я нават чуюся больш задаволеным, што Бог не гаворыць да мяне асабіста, бо тады я не меўбы такой свабоды паслухаць Бога, або і не... А гэтую свабоду дае мне мая вера.

Таму, калі Бог стварыў мяне свабодным, дык ня хоча прымушаць абсалютна да нічога, бо тады Бог забіраў-бы ад мяне назад тое, чым мяне абдараваў, значыць, маю вольную волю і свабоду.

А тымчасам усе неразумныя стварэньні спаўняюць Божую волю акуратна і адразу, але ўсё-ж пад прымусам і не маюць аніякае заслугі. А я за свае ўчынкі маю заслугу — залежна ад маей волі.

Калі б я неразумна выкарыстаў сваю волю, каб рабіць ня тое або ня так, як Бог мяне кліча, дый каб я так адмовіўся ад Божай волі, дык стаў бы я не варты, каб Бог мяне любіў.

Дык і вера мяне вучыць, што адвярнуўшыся ад Бога, я адкідаю свае шчасьце, бо стварыў мяне Бог на тое, каб падзяліцца са мною сваім шчасьцем. І вера мяне вучыць, што шчасьце я магу знайсьці толькі ў Богу: Бог мяне стварыў такім, што — акрамя Бога — ніхто іншы мяне ашчасьлівіць ня можа. Праўда, прыходзіць да нас шчасьце зямное і часова можам яго пакаштаваць, але гэтыя рэчы сапраўды называюцца «дачаснымі» — праміналюць і зьнікаюць. Дык фактычна ў нашым жыцьці мы не маем цяперашняга часу, а толькі прошлы і будучы, які на нашых вачах пралятае як фільм на экране.

Кожны фільм — гэта ўжо нейкая прошласьць, якую людзі навучыліся запісаць

(Заканчэньне на бач. 10-ой)

*а. Аляксандар Надсон*

# Еўеўскі буквар 1618 г.

Сярод раньніх усходнеславянскіх друкаваных падручнікаў да навукі чытаньня «Букварь языка славенска», выданы ў Еўі ў 1618 г., заслугоўвае на асаблівую ўвагу. Да апошняга часу ён быў няведамы ў славянскай бібліяграфіі. Толькі нядаўна былі знойдзены два экзэмпляры кнігі, адзін у Каралеўскай бібліятэцы ў Капэнгагене, а другі ў бібліятэцы Middle Temple у Лёндане.[1]

У 1610 годзе, у выніку непаладкаў паміж Віленскім праваслаўным брацтвам і цывільнымі ўладамі, брацкая друкарня была зачынена і само брацтва было змушана спыніць на некаторы час сваю дзейнасьць. Манахі брацкага Сьвятадухаўскага манастыра пераехалі ў маёнтак Еўе (сёньня Вэвіс у Літоўскай ССР) які быў уласнасьцю беларускага праваслаўнага магната і члена Віленскага брацтва Багдана Агінскага. Там, пад апекай Агінскага, яны залажылі новую друкарню і аднавілі выдавецкую дзейнасьць. Друкарня ў Еўі выпусьціла цэлы рад цікавых кніг на беларускай і царкоўнаславянскай мовах. Найбольш ведамай з іх была «Граматыка» Мялеція Сматрыцкага, выданая ў 1619 годзе. Вельмі магчыма, што Сматрыцкі быў таксама аўтарам, або адным з аўтараў, «Буквара». Гэтыя дзьве кнігі былі быццам часткамі аднаго цэлага. У прадмове «Учителем школным автор» да сваей «Граматыкі» Сматрыцкі так акрэсьліў месца кожнай з іх у сыстэме навучаньня: «Дѣткам учитися починаючим букварь, звыкле рекши алфавитарь, з той же грамматіки вычерпненый, абы склоненіям грамматичным з лѣт детинных з мовою зараз привыкали, до выученя подаван нехай будет. По часослова зась и псалтыри (которыи опусканы быти не мают) выученю ся овая грамматіка з выкладом, то есть з показованем и уживанем ей пожитков наступит».

*Буквар. Еўе 1618 г. Тытульны ліст.*

«Буквар» складаецца з сшыткаў $А^8Б^8В^8Г^8$ $Д^8Е^8Ж^1И^3$ з сігнатурамі на першых двух лістах кожнага сшытка, за выняткам першага. Усяго ў «Буквары» 52 ненумараваныя лісты разьмерам у васьмёрку. Праўдападобна апошнія тры лісты (сігнатура И) былі дадены пасьля надрукаваньня кнігі, бо на л. 49а знаходзіцца традыцыйнае заканчэньне: «Начавшему и совершившему Богу честь, слава и

[1] Першы ўспамін пра Еўеўскі «Буквар», знаходзіцца ў апісаньні старых славянскіх кніг у Каралеўскай бібліятэцы ў Капэнгагене, зробленым у 1957 г. датскай вучонай Г. Кронэ (Helene Crone. Gamle Slaviske Tryk i det Kongelige Bibliotek. „Fund og Forskning i det Kongelige Bibliotek Samlinger", IV. Kobenhavn 1957, стар. 62, № II). Нажаль праз доўгі час ніхто не зьвярнуў увагі на гэтую цікавую вестку. Толькі вясной 1972 г. аўтар гэтага артыкулу, пазнаёміўшыся з працай Кронэ, зацікавіўся «Букваром». Хутка пасьля гэтага яму пашчасьціла знайсьці ў Лёндане другі экзэмпляр кнігі. Пры параўнаньні аказалася, што Лёнданскі экзэмпляр зьяўляецца поўным, а ў Капенгагенскім не стае трох апошніх лістоў.

поклон...». Калантытулаў у «Буквары» няма, але ёсьць кустоды ў правым ніжнім рагу старонкі (апрача лл. 50-52). Друкаваная старонка тэксту, разьмерам у 112 (118 з кустодамі і сігнатурамі) x 67 мм., мае 14 радкоў. Вышыня 10 радкоў шрыфту ў тэксце 82 мм., у загалоўках — 60 і 50 мм. Тытульны ліст абведзены рамкай з наборнага арнаменту (119 x 67 мм.); унізе — невялікая гравюра (13 x 13 мм.) з крыжам у вянку і грэцкімі літарамі IC XC HI KA. На адвароце тытульнага ліста знаходзіцца гэрб Агінскага з лацінскімі літарамі BOPT (г. зн. Bohdan Oginski Podkomorzy Trocki). Верхнюю палову л. 50 займае гравюра Кальварыі: крыж і прылады мукі Хрыста за мурамі Ерусаліма; угары — месяц, сонца і напіс ЦРЬ СЛВЫ IC XC. Наборны арнамент рамкі вакол гравюры (73 x 66 мм.) іншы, чым у рамцы тытульнага ліста. Дзьве застаўкі з розных дошак на лл. 2 і 25, а таксама канцоўка на л. 49а, сустракаюцца ў іншых выданьнях Віленскага брацтва. Ліст 50а разьдзелены пасярэдзіне ўпоперак «заставіцай» Скарыны, якая была ўпершыню ўжытая ў «Малой падарожнай кніжцы» ў 1522 г. (гл. напр. лл. 36а, 73 і 133 «Псалтыра»). Ініцыялаў у кнізе няма, апрача двух З з розных дошак на лл. 50 і 50а. Апошні ініцыял таксама скарынінскі.

На тытульным лісьце даецца поўная назва кнігі: «Букварь языка славенска, писаній чтенія учитися хотящим в полезное руковоженіе». Паводле выхадных даных, таксама на тытульным лісьце, яна выйшла з друку ў Еўі 24 ліпеня 1618 г. Гэта была першая кніга, якая называлася «Буквар». Усе ранейшыя падручнікі да навукі чытаньня або ня мелі зусім тытулу, або называліся розна «Начало ученія дѣтем хотящим разумети писаніе», «Наука ку читаню и розумѣню писма словенского», «Азбука» і нават «Грамматіка». Ніводная з гэтых назваў, аднак, ня мела вялікага посьпеху. Затое слова «буквар» прынялося адразу, спачатку ў Беларусі, а ў другой палове XVII стагодзьдзя таксама ў Маскве і на Украіне. Сёньня яно зьяўляецца агульнай усходнеславянскай назвай падручнікаў да навукі чытаньня. Гонар увядзеньня яго належыць беларускім пэдагогам XVII стагодзьдзя.[2]

Зьмест «Буквара», які пачынаецца на л. 2 даксалогіяй «Слава святой единосущной животворящей и нераздѣлимой Троици...», можна падзяліць на чатыры часткі: буквар у сьцісłым сенсе гэтага слова (лл. 2а-8); кароткія весткі з граматыкі (лл. 9-24а); малітвы (лл. 25-49а); і наканец артыкул Сьцяпана Зізанія «О знаменіи крестном» на беларускай мове (лл. 50-52).

Букварная частка адчыняецца алфавітам. На л. 2а, пад загалоўкам «Буквы али писмена», даюцца 46 літар кірылічнага алфавіту, перш у звычайным парадку, а пасьля ў адваротным. Зьвяртае на сябе ўвагу новая літара «ґ» для абазначэньня выбухнога гуку *g*. У беларускай мове гэтага гуку няма і ён сустракаецца толькі ў іншамоўных запазычаных словах. Пачынаючы ад 15 стагодзьдзя ў беларускай пісьменнасьці для абазначэньня яго ўжываўся дыграф «кг». Пасьля ўвядзеньня «ґ» гэтыя два знакі ўжываліся паралельна на працягу XVII і XVIII стагодзьдзяў.

Пасля алфавіту ідуць прыклады розных тыпаў складоў (лл. 2а-7):

«Слози двописменныи от согласных начинаемыи» (лл. 2а-5): ба, ва, га... бъ, въ, гъ... бь, вь гь...

«Слози двописменныи от гласных начинаемыи» (л. 5): аб, ев, иг...

«Слози трписменныи» (лл. 5-5а): бла, вла, гла...

«Во исправленіе языка отрочате слози необычныи» (лл. 5а-6): бва, вбе, гди...

«Слози знаменательныи трeписменныи» (л. 6): тма, мна, здо... (У гэтую групу папалі памылкова двухскладовыя словы «тыю» і «ныю».

«Слози четвeрописменныи» (л. 6): есмь, яждь...

«Слози пятописменныи» (лл. 6-6а): часть, лесть...

«Слози шестописменныи» (л. 6а): скорбь, твердь...

«Слози седмо, осмо и девятописменныи» (лл. 6а-7): скврадъ, торзствъ...

«Слози сливаемыи» (л. 7): рай, май, гей... (таксама, памылкова, «стахѵй»).

У групе «слози сливаемыи» даюцца прыклады складоў з зычным *j*, які тут перадаецца пры дапамозе сёньня агульнапрынятай літары «й». Адсутнасьць асобнай літары для перадачы гэтага гуку была адным з недахопаў кірылічнага алфавіту. Беларускія пісцы ўжывалі першапачаткова для гэтай мэты літару «и», стараючыся нейкім чынам адзначыць яе адменны характар. Адным з такіх

[2] Ангелійскі вучоны Джон Сіманс выказаў у 1963 г. меркаваньне, што назва «Буквар» была ўведзена ў 1631 г. беларускім друкаром Спірыдонам Собалем (Джон С. Г. Симмонс. О некоторых старопечатных кириллических книгах в Дублине. «Книга. Исследования и материалы», сб. VIII. Москва 1963, стар. 252-253). У тым часе ён ня ведаў пра існаваньне Еўеўскага «Буквара».

Бꙋ́ква али писмена.

а б в г ґ д е ж ѕ ꙁ
з и і к л м н о
п р с т ꙋ оу ф х ѿ
ц ч ш щ ъ ы ь ѣ є
ю ꙗ ѧ ѡ ѫ ѻ ѯ ѱ
ѳ ѵѱїло.
ѵ ѳ ѱ ѯ о ѧ ѡ ꙗ
ж ю є ѣ ь ы ъ щ ш
ч ц ѿ х ф оу ꙋ т с
р п о н м л к ї и ꙁ ѕ
ж е д ґ г в б а:

Слози двописменныи ѿ согласныхъ начинаемыи.

Ба

Ба ва га ґа да жа ѕа за
ка ла ма на па ра са та
фа ха ца ча ша ща ѯа
ѱа ѳа:
Бє вє гє ґє дє жє ѕє зє кє
лє мє нє пє рє сє тє фє хє цє
чє шє щє ѯє ѱє ѳє:
Би ви ги ґи ди жи ѕи зи
ки ли ми ни пи ри си ти
фи хи ци чи ши щи ѯи
ѱи ѳи:
Бї вї гї ґї дї жї ѕї зї кї
лї мї нї пї рї сї тї фї хї
цї

*Лл. 2а–3*

Часть, лесть, честь, месть,
вѣтвь, вервь, сла́нь, де́брь,
две́рь, дщи́рь, гꙋ́сль,
плѣнь, жи́знь, гра́нь,
пѣснь, сꙋ́ртъ, сохль,
ѵмиксъ. и про.

Слози шестописменныи.

Скорбь, тве́рдь, бла́знь,
стражь, стра́хъ, пе́рстъ,
смрадъ, пе́рсть, смерть.

Слози семо ѿсмо и девято писменныи.

Скврадъ: То́рзствъ:
бла́знствъ

Бла́знствъ: ѿ имени,
скврада, торжество, блазн-
ство, и про:

Слози слитаемыи:

Ра́й, ма́й, ге́й, би́й, ли́й,
змі́й, зно́й, тво́й, злы́й,
сѣ́й, ꙁвѫй, плю́й, тро́й,
стѫхѵй.

Писмена гласнаꙗ:

а е и ї о ѣ ѡ ѵ:

Полъгласнаꙗ.

ъ, ь:

Писмена двогласнаꙗ Славенскаꙗ.

*Лл. 6а–7*
*Буквар. Еўе 1618 г.*

спосабаў было пісаць «и» як вынасную літару, якая ў скарапісе ператварылася ў хвалістую лінію (〰),[3] або ў дзьве паралельныя рыскі нахіленыя злева направа (⩵). Абодва знакі былі ўжыты ўпершыню ў друку ў «Літоўскім статуце» 1588 г., першы ў галоўным тэксце, а другі ў загалоўках. Гэты другі знак атрымаў даволі шырокае распаўсюджаньне ў беларускіх выданьнях канца 16 — 17 стаг. побач з літарай «й», якая пачала ўжывацца ў друку прыблізна ў тым самым часе. Сьцісла кажучы «й» не лічылася тады яшчэ самастойнай літарай. Яна паўстала праз напісаньне над «и» надрадковага знаку (ˇ), які называўся розна «чашка», «краткая» і «слитная» і азначаў «зьліцьцё» гэтай літары з папярэднім складам. Перад тым, чым паявіцца ў друку, знак «краткая» быў ужо ведамы ў рукапісных помніках. Славенскі вучоны Адам Багорыч у разьдзеле De Orthographia Rutenica & Moshovitica сваей кнігі De Latinocarniolana literatura, выданай у 1583 г., пісаў пра яго: „Nota *hyphen* graeci, coniunctim nimirum efferendarum literarum, ut к вѣчной».[4]

Вельмі цікавая вестка адносна ўжываньня «краткай» знаходзіцца ў адным тагачасным рукапісным граматычным творы усходнеславянскага паходжаньня: «Краткая полагается в сих рѣчех: пойду, дойду ... і в подобных сим яко: мой, сей, твой, той. Но великая Росия московскія рѣчи не полагается краткая над таковыми писмены, но таковая писмена без просодія полагаются, иначе же в выдрукованых книгах».[5] Сёньня вельмі цяжка ўстанавіць паходжаньне якога-колечы пісьмовага знаку. Усё вышэй сказанае, аднак, дае падставы думаць, што пачаткі літары «й» трэба шукаць у практыцы беларускіх пісцоў XVI стагодзьдзя.[6]

Пасьля складоў даецца класіфікацыя галосных (лл. 7-7а) на «Писмена гласная» (а, е, и ...), «Полгласная» (ъ, ь), «Писмена двогласная славенская» (оу, ы, ю ...), «Писмо трегласное» (ѫ), і «Писмена двогласная от греческих дуфтонґ приемлемая» (ае, еї ...). Далей, пад загалоўкамі «Просодія» (лл. 7а-8) і «Препинаніе строчное» (л. 8), ідзе пералік надрадковых знакаў (сярод якіх ёсьць таксама знак «слитная»), якія служылі для абазначэньня націску і спосабу вымовы розных літар, і знакаў прыпынку. Уся частка канчаецца параграфам «Число» (л. 8) з прыкладамі традыцыйнага напісаньня лікаў пры дапамозе літар кірылічнага алфавіту.

У граматычнай частцы памешчаны найперш «Парадигмата» (лл. 9-19а), або ўзоры пяці царкоўнаславянскіх скланеньняў — чатыры для назоўнікаў і пятае для прыметнікаў, — за якімі ідзе «Спряганіе» дзеяслова *быць* (лл. 19а-24а) ва ўсіх яго формах, уключна з дзеепрыметнікам і дзеепрыслоўем. Уся гэтая частка, як і апошнія параграфы папярэдняй, напамінае «Граматыку» Сматрыцкага ў скарочаным выглядзе.

Трэцяя частка, «Молитвы» (лл. 25-49а), пачынаецца найбольш ведамымі малітвамі («Царю небесный», «Пресвятая Троице», «Отче наш» і т. д.) і выбранымі царкоўнымі гімнамі («Ангельскій собор», «Преблагословенна еси Богородице дево», «Слава в вышних Богу»). Далей ідуць: «Сѵмвол православныя вѣры перваго Нікейскаго и второго Константинопольского вселенских соборов» (лл. 32-34а), «Сѵмвол преосващеннаго Афанасія патріархи Александрійскаго» (лл. 34а-38) і «Исповеданіе православныя вѣры святых отец наших Амвросія Медіоланскаго и Августина Гіппонскаго епископов» (лл. 38-40). Гэты апошні твор зьяўляецца царкоўнаславянскім перакладам ведамага лацінскага гімну Te Deum laudamus. У Беларусі гэты гімн быў ведамы ўжо ў XVI стагодзьдзі і быў першы раз надрукаваны ў 1596 г. у кніжцы «Молитвы повседневные», выданай Віленскім праваслаўным брацтвам.

За гімнам св. Амвросія ідуць: «Десятословіе» (лл. 40-42а), «Двѣ заповѣди Ветхаго Завѣта, в них же весь закон и пророци висят» (л. 42а), «Шесть совершенства Новаго Завѣта» (лл. 43-46), «Девять блаженства» (лл. 46-47); і нарэшце, на лл. 47а-49а: «Три добродѣтели Богословія», «Четыри добродѣтели евангелскія», «Седм таин Новаго Завѣта»,

---

[3] Дасьледчык старабеларускай арфаграфіі А. Булыка атаясамлівае гэты знак з іншым надрадковым знакам, які ён называе «паерыкам», а які ў тагачасных падручніках, у тым ліку і ў Еўеўскім «Букварах», называецца «ерык» (А. М. Булыка. Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы. Мінск, «Навука і тэхніка», 1970, стар. 53). Сапраўды, гэтыя два знакі вельмі падобныя, асабліва ў рукапісах напісаных скорапісам. З цьверджаньнем Булыкі аднак нельга згадзіцца, бо «ерык» пісаўся заўсёды пасьля зычных і ніколі пасьля галасных.

[4] A. Bohorizh. Arcticae horulae succisivae de latinocarniolana literatura, ad latinae linguae analogiam accomodata. Wittenberg 1583, стар. 12.

[5] И. В. Ягич. Рассуждения южнославянской и русской старины о церковнославянском языке. «Исследования по русскому языку и словесности», т. I. СПб. 1885—1895, стар. 745.

[6] Булыка (назв. твор. стар. 56) першы зьвярнуў увагу на магчымае беларускае паходжаньне літары «й», але ён думаў, што гэтая літара перш паявілася у друкаваных кнігах, а адтуль пашырылася на рукапісныя помнікі. Вышэй прыведзеныя сьведчаньні паказваюць хутчэй на адваротны працэс.

П҃ѧ чоувствъ телесныи:

Видѣнїе: слышанїе: ѡбонѧнїе: вкоушенїе; ѡсѧзанїе.

Четыри вещи послѣднїи:

Смерть: соудъ: геенна: царство небное.

Начавшемоу и Совершившемоу Бг҃оу честь слава и поклонъ: нн҃ѣ и прно и вовѣки вѣкомъ; Аминь.

Прч҃той Дв҃ѣ, преблгословенной Бж҃їей Матери оуслажденїе почесть и величанїе. Аминь.





# Ѡ знаменїи крестномъ.



Замыкаетъ всѧ крестъ Хв҃ъ таенницоу правовѣрїѧ на

и

Лл. 49а–50

шего, оучитъ вызнавати ст҃ую Троицоу, и з неба единороднаго Сн҃а Бж҃о на землю снитїе, и распѧтїе его, и възнесенїе. и заѕ з неба второе его приходъ въ соудный днь.

Зложенье великаго Пальца з двома малыми, значи ст҃ую Троицоу, а склоненье того што привелико досредъ него, значитъ дв҃ѣ на

тоурѣ и естности въ Хр҃ѣ. Положенье правои роуки на чело, значитъ двое превѣчное ѿ Бг҃а Ѿца Сн҃овне рожество, и тое же з небесе сошествїе. А што на персехъ, значитъ иж тоже Сн҃ъ Бж҃їи зстоупи на землю, и въ оутробе ѿ Дв҃ы чистои Мрїи, и з людми жилъ, распѧ оумеръ, въ кресъ в третїи днь, и въ нбѧ на нбса, сѣдитъ о

И к

Лл. 50а–51
Буквар. Еўе 1618 г.

«Седм даров Духа Святаго», «Девять плоды духа человѣча», «Седм грехов тяжчаиших», «Седм дѣл милосердїа», «Три добродѣтели довлетворенїа», «Три совѣты Господни», «Правда естественная», «Правда законная», «Пять чувств телесных», «Четыри вещи послѣднїи». Форма і зьмест гэтых апошніх параграфаў зьяўляюцца амаль даслоўным паўтарэньнем падобных тэкстаў у каталіцкіх малітаўніках, адкуль яны напэўна былі ўзяты.[7]

«Буквар» канчаецца творам Сьцяпана Зізанія на беларускай мове «О знаменїи крестном» (лл. 50-52), які быў перадрукаваны з невялікімі лексічнымі і арфаграфічнымі зьменамі з кнігі «Наука ку читаню и розуменю писма словенского», выданай Віленскім праваслаўным брацтвам ў 1596 годзе. Аўтары «Буквара», відаць, разумелі, што перад тым, чым узяцца за навуку царкоўнаславянскай мовы, вучні павінны былі добра ведаць сваю родную. Наяўнасьць беларускага тэксту да чытаньня і ўвядзеньне ў алфавіт літары «ґ», якая ў царкоўнаславянскіх тэкстах не ўжывалася, пазваляюць уважаць гэту кнігу за падручнік мовы ня толькі царкоўнаславянскай, але і беларускай.

У часе ад 1618 г. да пачатку вайны з Масквою ў 1654 г. у Беларусі ведамы дзевяць выданьняў падручнікаў да навукі чытаньня.

У 1621 г. ў Вільні зьявілася трэцяе выданьне кнігі «Грамматїка, албо сложенїе писмена хотящимься учити словеньскаго языка. Младолѣтным отрочатом», першыя два выданьні якой выйшлі ў 1618 г. Надрукаваная яна была напэўна ў друкарні Мамонічаў, хоць пра гэта ў ёй нічога не гаворыцца. Нягледзячы на назву, «Граматыка» была пачатковым вучэбнікам да навукі чытаньня, г. зн. букваром. Як зьместам так і назваю яна значна адрозьніваецца ад Еўеўскага «Буквара», а таксама ад ранейшых выданьняў падобнага характару. «Граматыка» зьвяртае на сябе ўвагу сваім мастацкім афармленьнем. Гэта была першая ў Беларусі вучэбная кніга з ілюстрацыямі, якія мелі напэўна на мэце зрабіць яе больш прывабнай для вучняў.[8]

У 1631 г. беларускі друкар Спірыдон Собаль у сваей друкарні ў Кутэіне выдаў «Букварь, сиречь начало ученїя дѣтем начинающим чтенїю извыкати». З апісаньняў гэтага выданьня выглядае, што зьмест яго быў вельмі падобны да зьместу Еўеўскага «Буквара».[9]

Апошнія сем кніг мелі такую самую назву, як і Еўеўскі «Буквар». Выдаўцамі іх былі: прыгаданы вышэй Спірыдон Собаль у Магілёве ў 1636 г.; Магілёўскае праваслаўнае брацтва ў 1648 і 1649 гг.; Віленскае праваслаўнае брацтва ў 1640, 1645 і 1652 гг.; і Кутэінскі Багаяўленскі праваслаўны манастыр у 1653 г.[10] Апрача назвы ўсе гэтыя кнігі мелі таксама амаль аднолькавы зьмест і розьніліся між сабою галоўным чынам паліграфічным афармленьнем. У параўнаньні з Еўеўскім «Букваром» гэта былі даволі скромныя выданьні з выразнай перавагай тэкстаў рэлігійных над граматычнымі. Іхняя букварная частка мела толькі «Буквы или писмена», «Слози двописменныи от согласных начинае-

---

7 Нешта падобнае можна сустрэць у каталіцкіх малітаўніках, выданых яшчэ зусім нядаўна. Гл. напр.: К. Стэповіч. Голас душы. Падручнік жыцьцяпрактыкі рэлігійнай для беларусаў. Выд. IV. Рым 1949, стар. 4-7.

8 Адзіночныя экзэмпляры двух першых выданьняў «Граматыкі» знаходзяцца ў Бодлейскай бібліятэцы ў Оксфардзе, дзе яны былі знойдзены Барнікотам і Сімансам у 1951 г. (J. D. A. Barnicot and J. S. G. Simmons. Some Unrecorded Early-printed Slavonic Books in English Libraries. „Oxford Slavonic Papers", Voll. II, 1951, стар. III, № 13,14). Амаль да апошняга часу яны лічыліся унікатамі, але нядаўна аўтару ўдалося натрапіць на другі экземпляр першага выданьня ў Брытанскім Музэі ў Лёндане. Адзіны поўны экземпляр трэцяга выданьня «Граматыкі» 1621 г. знаходзіцца ў бібліятэцы Trinity College у Кэмбрыджы. (E. P. Tyrrell and J. S. G. Simmons. Slavonic Books before 1700 in Cambridge Libraries. „Transactions of the Cambridge Bibliographical Society", No. 3, 1963, стар. 391, № 15).

9 И. Свенцицкий. Каталог книг церковнославянской печати. Жовква 1908, стар. 153-154, № 569; М. Батвіннік. Куцеінскі буквар. «Народная асвета», № 12, Мінск 1972, стар. 86-87. Адзіны ведамы экзэпляр гэтай кнігі знаходзіцца ў Музэі украінскага мастацтва ў Львове.

10 Унікальны экзэмпляр Віленскага «Буквара» 1640 г. быў выяўлены аўтарам у Брытанскім музэі ў Лёндане. Ён яшчэ нідзе не апісаны. Адзіныя ведамыя экзэмпляры выданьняў Віленскага 1645 г. і Магілёўскага 1649 г. знаходзяцца ў бібліятэцы Упсальскага ўнівэрсытэту, дзе яны былі знойдзены ў 1951 г. Л. Чельбэргам (L. Kjellberg. Catalogue des imprimés slavons des XVIe, XVIIe et XVIII siècles conservés a la Bibliothèque de l' Université Royale d'Uppsala. Uppsala 1951, стар. 7-8, № 47, 59; таксама Barnicot and Simmons, назв. твор, стар. 114, № 18). Таксама ўнікальным зьяўляецца экзэмпляр Магілёўскага «Буквара» 1648 г., які перахоўваецца ў бібліятэцы гораду Гота (H. Claus. Slavia-Katalog der Landesbibliothek Gotha. Berlin, Akademie Verlag, 1961, стар. 33, № 189). Кутэінскі «Буквар» 1653 г. быў знойдзены ў 1959 г. Сімансам у Marsh's Library у Дубліне (гл. яго О некоторых старпечатных кириллических книгах..., стар. 247-253). Пазьней былі адкрыты два іншыя экзэмпляры — адзін у Ленінградзе, а другі ў Варшаве. Нядаўна аўтару ўдалася знайсьці чацьверты экзэмпляр гэтага выданьня ў Брытанскім музэі ў Лёндане.

мыи», «Слози триписменныи», «Слози триписменныи знаменательныи» (уключна са славамі «тыю», «ныю»), а таксама параграф «Во исправленїе языка отрочате слози словес под титлами», якога не было ў Еўеўскім выданьні. Другая частка, «Молитвы», зьяўлялася дакладным паўтарэньнем аднайменнай часткі Еўеўскага «Буквара» з дадаткам Псалму 50. Граматычная частка («Парадигмата») адсутнічала зусім, а на месцы тэксту да чытаньня былі дадатковыя ранішнія і вячэрнія малітвы. У такой канчатковай форме буквары сталі стандартнымі школьнымі падручнікамі да навукі чытаньня ня толькі ў Беларусі, але і ў Маскве, куды яны трапілі ў другой палове XVII стагодзьдзя і дзе яны перавыдаваліся з нязначнымі зьменамі некалькі разоў. Такім чынам Еўеўскі «Буквар», які лёг у аснову усіх гэтых выданьняў, адыграў важную ролю ў разьвіцьці пачатковай вучэбнай літаратуры ў Беларусі і за яе межамі.[11]

[11] Фатаграфіі тытульнага ліста, а таксама лл. 2а-3 і 6а-7 «Буквара» зроблены з экзэмпляра Каралеўскай бібліятэкі ў Капэнгагене; дзьве апошнія — з экзэмпляра бібліятэкі Middle Temple у Лёндане.

*Я. Запруднік*

# Каталіцкая царква на Беларусі й беларуская мова

У Савецкім Саюзе ўлада, адлучыўшы царкву ад дзяржавы, адлучыла фактычна і гісторыю рэлігіі ад гістарычнае навукі. У беларускай савецкай гістарыяграфіі, прыкладам, гісторыя рэлігіі зусім не распрацоўваецца, пра што добра сьведчыць паказьнік «Бібліяграфія гісторыі Беларусі. Фэадалізм і капіталізм». Кніга, выдадзеная ў 1969 годзе Інстытутам гісторыі АН БССР, рэгіструе працы за пэрыяд ад 1803 да 1966 году. У падраздзелах «Бібліяграфіі» «Царква» і «Рэлігійна-палітычная барацьба» названа ўсяго 62 працы. Але з іх толькі адна напісаная за савецкіх часоў, усе-ж рэшта былі надрукаваныя да рэвалюцыі. Тымчасам з гісторыяй рэлігіі ў дарэвалюцыйнай Беларусі зьвязаная ў ладнай меры гісторыя асьветы, друку, літаратуры, станаўленьня нацыянальнае сьведамасьці, мовы. Гэтак, прыкладам, да гісторыі Каталіцкае Царквы на Беларусі і да гісторыі беларускае мовы мае беспасярэдняе дачыненьне адна цікавая падзея, што здарылася роўна 75 год таму. У 1897 годзе з Рыму ў Беларусь быў прысланы ліст у справе ўжываньня беларускае мовы ў каталіцкай багаслужбе. Пра гэта расказала сваім чытачом віленская газэта «Гоман», у нумары ад 12 травеня 1916 году. У газэце быў зьмешчаны артыкул пад загалоўкам «З гісторыі каталіцкага касьцёлу на Беларусі». Артыкул падпісаны ініцыялямі «В. Л.» (відавочна, Вацлаў Ластоўскі — ведамы беларускі дзеяч, пісьменьнік і гісторык), пачынаўся гэткім гістарычным экскурсам:

«Каталіцкая гіерархія здавён-даўна прызнавала правы беларускай мовы ў касьцеле: у казаньнях і ў дадатковых агульных модлах. Аб гэтым гавораць няраз кансысторскія інструкцыі і біскупскія цыркуляры, пачынаючы ад 16-га сталецьця.

«Да 1839 году ў каталіцкіх касьцёлах гэтыя цыркуляры і інструкцыі спаўняліся на практыцы: месцамі дадатковыя модлы, а па ўсёй Беларусі казаньні й катэхізацыя адбываліся ў мове беларускай. Толькі пасьля царскага ўказу (1839 году) дый то, праўда, не адразу, месца мовы беларускай ў каталіцкіх касьцёлах пачала займаць мова польская».

Далей у артыкуле казалася пра тое, як царскі ўрад у 1870-ых гадох спрабаваў быў увесьці рускую мову ў касьцёлах на Беларусі, як пры дапамозе гвалту, паліцыі й войска мова гэтая насаджалася ды як людзі супрацівіліся гэтаму.

«Бачачы гэткае цяжкое палажэньне Беларусаў-каталікоў, — чытаем далей у газэце «Гоман», — тагачасны магілеўскі арцыбіскуп Сымон зьвярнуўся да правіцельства, просячы, каб заместа накіданьня дзьвюх моваў — расійскай і польскай, яно пазволіла Беларусам мець казаньні ў сваёй роднай беларускай мове. Пачалася даўгая гутарка аб гэтым між каталіцкай гіерархіяй і расійскім правіцельствам. У канцы справа абапёрлася аб Рым. Рымская Курыя, — піша «Гоман», — пісьмом з дня 8 мая 1897 году № 37.522 паведаміла арцыбіскупа магілеўскага (Казлоўскага) аб тым, што Сталіца Апостальская дае яму права ў парахвіях, дзе народ гаворыць па-беларуску, пазволіць пробашчам ужываць гэтай мовы ў навучаньні праўдаў веры».

Газэта піша далей, што з гэтага дазволу нічога аднак ня выйшла, бо з аднаго боку супрацівіўся гэтаму царскі ўрад, а з другога, кажучы словамі артыкулу, «само тутэйшае духавенства дзяржалася палітычных праграм, ня маючы нічога супольнага з патрэбамі беларускага народу».

Між іншага, пра той-жа ліст Рымскае Курыі 1897 году ў справе беларускае мовы піша

## ДОБРАЯ НАВІНА

(Заканчэньне з бач. 2-ой)

так, як яна запісваецца ў нашай памяці. Таму чалавек можа яшчэ раз прыгледзецца ўсяму, як яно было. Было і . . . ўжо няма яго! І ніякая сіла ня зможа ўсяго гэтага вярнуць, каб яно перажылося так, як паўтараецца на экране . . . А экран нам паказвае дзіўную зьяву: кожная хвілінка нашага жыцьця родзіцца і адразу памірае на нашых вачах, запісаўшыся толькі у нашай памяці. І гэта ёсьць усё, што жыцьцё нам дае і што можа даць. Дык ці можна такое жыцьцё наагул жыцьцём называць? Ці ня лепш было-б называць яго паміраньнем. А калі так, дык ці не паказвае яно нам, што недзе — паза часам — павінна быць іншае і сапраўднае жыцьцё, якога мы ўсьцяж чакаем у будучыні? Бо салíднае нашае шчасьце ёсьць магчымае толькі ў тым паза-часовым жыцьці.

А што такое паза-часовае жыцьцё ёсьць, аб гэтым гаворыць нам духовая асоба, якая ёсьць бязупынным сьведкам усяго нашага жыцьця — гэта нашая памяць. І нашае «Я», якое не мяняецца, належыць ужо да іншага, паза часовага сьвету, дзе наш сапраўдны «бацькаўскі дом» і дзе любячы нас добры Бацька-БОГ жыве і чакае. І Бог сапраўды чакае, ці мы захочам дабравольна адазвацца, ці не, калі Ён пакліча нас да Сябе . . . Так, прыйдзе сьмерць — ужо апошняя, посьле якой ужо больш нічога да нас ня прыйдзе і мы можам астацца з усімі незаспакоенымі надзеямі, пажаданьнямі і патрэбамі, назаўсёды адарваўшыся ад Бога. А Бог стварыў нас, не пытаючыся, ці мы захочам нарадзіцца беларусамі і мець такіх бацькоў, бо й ня мог Бог нас спытацца, калі нас яшчэ й ня было! Але ратаваць нас у жыцьці без нашае згоды Бог напэўна ня будзе! Значыць, мы стаім на раздарожжы: тут нам у кожнай хвіліне трэба пытацца, дзе правільны шлях, куды ісьці і дзе й у які бок павярнуцца? Аб гэтым нам скажа наступная катэхэза. Прыступім да яе з поўнай развагай і адказнасьцяй, бо і сказана: — «Якое жыцьцё, такая сьмерць; якая сьмерць, такая вечнасьць».

ў сваёй кнізе «Літва і Бялорусь» польскі аўтар Леон Васілеўскі. Як прычыну таго, што каталіцкае духавенства на Беларусі не скарыстала з права ўжываць часткава ў богаслужбах беларускую мову, Васілеўскі падае «атаесамляньне беларускім жыхарствам беларускае мовы з мовай рускай, а значыцца з прапагандай праваслаўя» (б. 122). Пра тое, што каталіцкае духавенства, як тлумачыла газэта «Гоман», «дзяржалася палітычных праграм, ня маючы нічога супольнага з патрэбамі беларускага народу», Васілеўскі ў сваёй кнізе нічога ня кажа. У сапраўднасьці тымчасам яно гэтак і было. Асабліва выразна гэта выявілася ў трэцяй Дзяржаўнай Думе Расіі.

У 1910—12-м гадох у Думе разглядалася заблытанае пытаньне: у якой мове выкладаць рэлігію дзецям беларусаў-каталікоў? Манархістычныя дэпутаты беларускіх губэрняў цьвердзілі, што паколькі Беларусы-каталікі карыстаюцца ў штадзённым жыцьці «беларускім дыялектам» расейскае мовы, дык дзяцей іхных трэба навучаць рэлігіі парасейску; прадстаўнік-жа каталіцкага духавенства, дэпутат Віленскае губэрні ксёндз Мацеевіч, падтрымваны іншымі польскімі прадстаўнікамі, даводзіў, што паколькі беларусы-каталікі свае пацеры кажуць папольску, дык і дзяцей іхных трэба навучаць рэлігіі папольску. У гэтую парлямэнтарную вайну русыфікатараў з палянізатарамі за душы беларускіх дзяцей была ўцягнутая заява папы Рымскага Пія X-га ад 13-га кастрычніка 1906 году, зробленая ў духу ліста з 1897 году да магілеўскага арцыбіскупа Казлоўскага. Папа Пій X-ты таксама прызнаў, што ў навучаньні рэлігіі можа быць ужываная родная мова дзіцяці (палаціне, lingua vernacula). Але ў спрэчках у Думе між манархістамі й каталіцкім духавенствам, якая гэта мова павінна быць для дзяцей беларускіх каталікоў, да згоды гэтак і не дайшло. У канчальным выніку верх узялі манархісты: быў праведзены закон, што выкладаць рэлігію дзецям беларусаў-каталікоў трэба парасейску.

Прызнаньне аднак у прынцыпе права ўжываць часткава родную мову ў каталіцкай багаслужбе і навучаньні рэлігіі, гарачыя спрэчкі вакол гэтага пытаньня спрыялі фармаваньню ідэі, што й беларуская мова мусіць стаць упоравень зь іншымі.

У травені 1910 году, выступаючы з прамовай у Дзяржаўнай Думе, ксёндз Мацеевіч расказаў пра цікавы выпадак, што здарыўся ў Сакольскім павеце Горадзенскае губэрні. Там, сказаў ён, было набрана 18 тысячаў подпісаў, каб рэлігія ў школах выкладалася папольску. «Мясцовыя-ж улады, — жаліўся

ксёндз Мацеевіч, — цьвердзяць, што просьбу падпісвалі беларусы, і выкладаньне будзе весьціся пабеларуску».

Усё гэта паказвае, што вывучэньне рэлігійнага жыцьця ў дарэвалюцыйнай Беларусі мае шмат дачыненьня да гісторыі беларускае мовы. Вывучэньне гэтае дае паўнейшы абраз станаўленьня беларускае мовы, як галоўнага элемэнту нацыянальнае сьведамасьці й палітычнага адраджэньня.

Сьцяпан Александровіч у сваёй кнізе 1971 году «Пуцявіны роднага слова» слушна адзначае, што другая палавіна XIX-га — пачатак XX-га стагодзьдзя гэта «найбольш інтэнсыўны пэрыяд разьвіцьця беларускай літаратуры, кнігадруку й пэрыёдыкі ў дарэвалюцыйны час».

Інтэнсыўнасьць разьвіцьця абыймала сабой і рэлігійнае жыцьцё. Калі сёньня адбываецца шырокі рух за захаваньне царкоўных будынкаў, як гістарычных помнікаў, як сьветкаў творчага таленту нашага народу, дык няма ніякіх асноваў занядбоўваць і вывучэньне рэлігійна-арганізацыйных пытаньняў. Вывучэньне гэтае прыводзіць да шмат якіх цікавых фактаў і высноваў пра нашую мінуўшчыну ды ейную сувязь з нашай сучаснасьцяй.

АД РЭДАКЦЫІ: У змаганьні палякаў з расейскім урадам за мову ў Каталіцкім Касьцеле ў Беларусі ёсьць напісаная значнейшая праца праз Біскупа Сіповіча ў ангельскай мове і трэба спадзявацца, што яшчэ ў гэтым годзе яна будзе надрукавана. З той працы даведаемся дакладней аб волі Рыму адносна ўжываньня беларускае мовы. Тут толькі заўважым, што Б-п Сымон, суфраган Магілёўскі (1841—1918), сваім зразуменьнем, аўтарытэтам і сваімі лістамі падтрымаў у Рыме прапанову расейскага ўраду, каб замест польскае мовы ў дадатковых набажэнствах ужывалася беларуская.
Б-п Сымон быў наважаным праціўнікам расейскае мовы, быў прыхільнікам, а нават ініцыятарам увядзеньня беларускай, але ішоў на кампраміс адносна ўжываньня польскае мовы. (Глядзі «Божым Шляхам», г. 1971, № 124, бач. 16—17..

АД РЭДАКТАРА: Я добра помню тыя часы і факты. Кс. Мацеевіч у III Думе паставіў баламутны сафізм: «Калі беларусы моляцца папольску, дык і дзяцей трэ вучыць папольску». Што з таго, што беларусы маліліся па памяці, — паўтаралі, мала разумеючы, але дзяцей трэ было вучыць разумна, а не як папугаяў. І палякі страшылі Рым, што беларусы праз сваю мову схілюцца ў праваслаўе. Аднак, дзе сапраўды былі спробы ўвядзеньня беларускай мовы ў касьцеле, там людзі ясьнеей разумелі сваю веру і шчыльней хадзілі ў касьцёл.

А расейскі ўрад спужаўся, што даць беларусам іх мову ў касьцеле, дык беларусы праслаўныя захочуць сваей мовы ў царкве і ўкраінцы — таксама. Дык урад згадзіўся лепш цярпець польскую мову для беларусаў, чым дапускаць ім родную, беларускую . . .

---

# На кніжнай паліцы

**Беларуская Савецкая Энцыклапедыя:** т. I, Мінск, 1969, 624 с.; т. II, Мінск, 1970, 640 с.; т. III, Мінск, 1971, 608 с.; т. IV. Мінск, 608 с.; т. V, Мінск, 1972, 616с.; т. VI, Мінск, 1972, 624 с. Як бачым, дагэтуль выйшла з друку шэсьць тамоў БСЭ. У першых гадах выдавалася па адной кнізе на год (1969—70), у наступных (1971—72) па дзьве.

Мы тут ня маем намеру апісываць дакладна кожны том (аб І-ым гл. «Б. Ш.» 1970, № 119, стр. 14—15). Аб іх зрэшты інфармуе даволі шырока савецкая і эміграцыйная прэса. Заўважым толькі, што як вонкавая акуратная вопратка, так і ўнутраны ідэйны зьмест (бальшавіцкая партыйная лінія перадусім у пытаньнях гісторыі і рэлігіі) астаюцца бяз зьменаў. Прыкладам Кастуся Каліноўскага (т. V, стр. 265—66) насуперак гістарычнай праўдзе зрабілі бязбожнікам. Вацлаў Ластоўскі (т. VI, стр. 267) ёсьць названы адным з ідэолагаў бел. нацыяналізму, які ачоліваў Раду міністраў БНР «марыянетачнай дзяржавы, якая была абвешчана 25. 3. 1918 у ўмовах акупацыі Беларусі ням. войскамі як бурж. рэспубліка і дамагалася аддзяленьня Беларусі ад Сав. Расіі . . .». Падаецца год сьмерці В. Ластоўскага: 1938, але аб яго выгнаньні, муках ані слова. Падобна сказана такжа і аб Усеваладу Ігнатоўскім (1881—1931): нацыянал-ухіліст і таму разумеецца быў выключаны з партыі (т. V, стр. 44). Затое аб «геніяльным» Леніне — як можна было спадзявацца — цэлыя старонкі (т. VI, стр. 303—312) побач з рознымі яго здымкамі. Сярод «заслугаў» Леніна адносна беларусаў ўспомнена і вось гэткая: Ленін выкрыў дробнабурж. сутнасьць праграмы «Беларускай сацыялістычнай грамады» па нац. пытаньні . . . (стр. 307).

Значыць паміма крытыкі ў Савецкім Саюзе культу асобы старыя ярлыкі «бурж. нацыяналізму» і яго розныя ўхілы астаюцца надалей у сваёй моцы і толькі шкодзяць такому каштоўнаму выданьню, якім ёсьць Бел.СЭ.

**ГРАВЮРЫ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1972. Уступны артыкул, сістэматызацыя гравюр і мастацтвазнаўчы аналіз Л. Баразны. Навуковыя рэдактары А. І. Жураўскі, П. В. Масленікаў, Г. В. Штыхаў.**

Кніга-альбом, аб якой падаём кароткія інфармацыі, без сумніву ёсьць трэцяй паважнай працай пра Францішка Скарыну. Першай зь іх была кніга з працамі розных аўтараў: 450 год беларускага кнігадрукаваньня, якая выйшла ў Мінску ў 1968 г., другая: Прадмовы і пасляслоўі, Мінск, 1969, апрацаваная Коршунам і Прашковічам.

Ведама, што Скарына ня толькі беларушчыў стараславянскія кнігі Біблії,, але і сам пісаў пабеларуску, імкнучыся іх паясьніць і зрабіць як найбольш даступнымі для людзей. Апрача таго ён тлумачыў сьвятое Пісьмо праз ілюстрацыі, якія перш павінны былі быць намаляваныя на дошках з дрэва, пасьля на іх-жа нарэзаныя, і толькі тады маглі ўжывацца ў друкарнях. Альбом гравюраў Скарыны падае 51 гравюру. Апрача таго знаходзім у ім застаўкі, вінеткі, манаграмы (гэрбы) і прыгожыя загалоўныя літары.

Л. Баразна у сваім аналізе дзеліць скарынаўскія гравюры на пяць, а фактычна на шэсьць (група прыкладных гравюр) катэгорыяў. Прынцып або крытэрый падзелу ня зусім ясны, зрэшты і сам аўтар называе умоўным. Найважнейшым ёсьць тое, што першы раз сабраны ў адно ўвесь сяньня ведамы мастацкі набытак Скарыны. Магла-б быць ужытая крыху лепшая папера, абсалютна выэлімінаваныя памылкі друку (глядзі беларускі тэкст камэнтара: «Саламон бяседуе з царыцай Савай»). Аднак і такі, якім альбом ёсьць у сваім першым выданьні яго трэба вітаць. Трэба таксама пахваліць сьціпласьць яго аўтара, які закончыў свае ўводзіны да Альбому: «Альбом „Гравюры Францыска (Георгія) Скарыны" — гэта пакуль толькі спроба сістэматызацыі і аналізу выяўленчай творчасьці вялікага беларускага асьветніка. І, безумоўна, справа будучага — шырэй і глыбей вывучыць і раскрыць велізарны ўклад Скарыны не толькі ў друкарскую справу, але і ў выяўленчае мастацтва беларускага народа».

Пэўна-ж імя Скарыны «Георгій» — дадатак непатрэбны, псэўданавуковы, накінуты прыказам НКВД.

**В. ПАНУЦЭВІЧ. «БЕРАСЬЦЕЙСКАЯ ВУНІЯ». Чыкаго, 1972, 140 стр. Цана 3 даляры.**

Падтытулы паясьняюць характар кніжкі: рэфэрат, які быў чытаны ў Беларускім рэлігійным Цэнтры ў Чыкага ў 1971 г. з нагоды 375-ых угодкаў берасьцейскай Вуніі (1596—1971).

Не закругленыя лічбова гэты юбілей даволі галасна сьвяткавалі ўкраінцы. Мэта сьвяткаваньняў ясная: запратэставаць супроць гвалтам праведзенай ліквідацыі украінскай каталіцкай Царквы на бацькаўшчыне, яшчэ раз зьвярнуць увагу вольнага сьвету на прасьлед рэлігіі ў Савецкім Саюзе. З гэтым усім трэба згадзіцца. Слушна аднак В. Пануцэвіч падкрэсьлівае той прыкры для беларусаў факт, што ўкраінцы падчас урачыстасьцяў у сваіх прамовах, пастырскіх пасланьнях быццам забыліся гісторыю Вуніі і прысвоілі ня толькі саму падзею, але і ейных перадавых творцаў як духоўных (Пацей, Тэрлецкі, Руцкі), так і сьвецкіх. У праўднасьці казацкая Украіна з дапамогай Масквы на самых пачатках Вуніі найбольш супраць яе змагалася, на што зьвярнуў увагу а. Іван Прашко, цяперашні ўкраінскі біскуп у Аўстраліі. Кніжка В. Пануцэвіча перарасла рамкі звычайнага рэфарату. У ёй шмат цікавага матэрыялу з беларускай царкоўнай гісторыі, часта з новым насьвятленьнем. Вельмі таксама багатая бібліяграфія. Некаторыя цьверджаньні аўтара моцна аподыктычныя, а пры палемічнай нагрузцы часта перашкаджаюць чытачу дайсьці да сваіх собскіх высноваў.

**ВЯЛІКАЛІТОЎСКАЯ КУХАРКА. GREATLITVANIAN (BYELORUSSIAN) COOKBOOK. Second enlarged edition compiled by M. Stankevich. Hawthorne, N. J., 1972. 64 p.**

Кніжка ў ангельскай мове. Назовы страваў падаюцца у дзьвёх мовах: ў ангельскай і беларускай (аўтар гэту апошнюю называе вялікалітоўскай). Гэта ўжо трэцяя кніжка той самай аўтаркі больш-менш аднолькавага зьместу. У 1959 годзе ў Нью Ёрку выйшла ў ратататарным выданьні «Вялікалітоўская (Беларуская) кухарка». У 1961 г. таксама ў ратататарным выданьні , але ў ангельскай мове, выйшла кніжыца пад назовам «East European Cookbook», 33 с.

Вось-жа гэтай апошняй маем цяпер новае пашыранае друкаванае выданьне. Сапраўды належыцца ўдзячнасьць сп-ні М. Станкевіч, што яна ўсьцяж працуе над тым, каб сваім і чужым падаць на стол усё тое беларусамі прыдуманае, стагодзьдзямі ўжыванае і смачнае. Пры гэтым зьвернем увагу на адну кніжку ў польскай мове, якую падарыў у Беларускую Бібліятэку ў Лёндане сп. Г. Пікарда: «Kucharz dobrze usposobiony», ułożony przez Jana Szyttlera, Wilno, 1830. Кніжка гэтая была купленая ў Лёндане на ліцытацыі. Для тых, хто цікавіцца беларускімі стравамі, яна неабходная. Ян Шыттлер, кухар князя Э. Сапегі, відаць умеў ня толькі варыць, але і пісаць. Ён апісаў многа страў, якія ён рыхтаваў для сталоў беларускіх паноў і якія ведамы толькі ў Беларусі.

**THE JOURNAL OF BYELORUSSIAN STUDIES. Vol. II, No. 4, London 1972.**

З выхадам у сьвет гэтага нумару канчаецца другі том журналу (кожны том складаецца з чатырох гадавых нумараў) і восьмы год выдавецтва.

У нумары знаходзяцца наступныя артыкулы: А. Надсон, Малітаўнік Скарыны; М. Альтбаўэр, Назіраньні над беларускімі перакладамі Біблії; Дж. Дынглей, Два рукапісы «Граматыкі славянскай» Яна Ужэвіча; Р. Патры-Тамушанскі, Анёл Доўгірд, віленскі філёзаф. Апрача таго там ёсьць справаздача з дзейнасьці Англа-беларускага таварыства за 1971 год, рэцэнзіі кніг (17 назваў) і часапісаў (8 назваў) і хроніка беларускага жыцьця. У канцы зьмешчаны добра апрацаваны індэкс артыкулаў і рэцэнзіяў другога тому.

**BYELORUSSIAN YOUTH — БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ. Vol. 1, No. 1 (27), Fall 1972. Published by The Byelorussian-American Youth Organization. 401 Atlantic Avenue, Brooklyn, New York 11217.**

Падаючы вестку аб адрадзіўшымся часапісе беларускай моладзі ў Злучаных Штатах Амэрыкі, жадаем мы «старыкі» ня толькі посьпеху, але перадусім стойкасьці і вытрываласьці. Часта яно ў жыцьці бывае, што найбольш шляхотныя пачыны рассыпаюцца быццам тое парахно. Чаму? Бо лягчэй гаварыць і крытыкаваць, чым рабіць; больш бывае закідаў чым помачы . .

Аднак-жа мы верым, што «Беларуская Моладзь» пераможа ўсе перашкоды. Дык у Божа імя! Чакаем наступнага нумару.

На цябе наша моладзь надзея,
Нашай сумнай гаротнай зямлі,
Твой арліны палёт цьмы разьвее,
І запаліць век-вечны агні!

(Купала)

Ч. С.

РЭДАКЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»
ВІТАЕ
ДАРАГІХ СУПРАЦОЎНІКАЎ І ЧЫТАЧОЎ
СА СЬВЯТАМ 25-га САКАВІКА!
КАБ БОГ ДАЎ НАШАМУ НАРОДУ ВОЛЮ
І ПОЎНУЮ СВАБОДУ
НАШАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ!

# З царкоўнага жыцьця

АНГЛІЯ: «Супольная Біблія». У 1972 г. выдана супольная Біблія каталікамі, пратэстантамі і праваслаўнымі. Выданьне прыгожае і практычнае ў адным томе. Супраца над экумэнічнай Бібліяй працягваецца далей і ўжо выйшаў Новы Запавет другога выданьня.

✳

ВАТЫКАН — В'ЕТНАМ: Яшчэ ня зусім супакоены В'етнам выклікае акцыю помачы для народу, які гэтулькі нацярпеўся ў даўгой вайне. Захад і Ўсход змагаліся з сабой, праліваючы кроў нявінных людзей. А фактычна ня здолелі ані сябе перамагчы, ані даць належны ратунак в'етнамскаму народу. Рымскі Папа заклікае да арганізацыі помачы галодным і хворым, асабліва цяжка пакалечаным.

✳

ПАВАЛ VI СЯРОД РАБОТНІКАЎ: На Каляды 25. XII. 1972 Папа адправіў уночы сьв. Літургію сярод работнікаў у тунэлі, які будуецца ў 50 кілямэтрах ад Рыму. Даўжыня тунэлю 3 кіл., шырыня 8 мэтраў. І ўжо ўвайшло ў звычай, што Папа адпраўляе сьв. Літургію кожны год Калядамі ў іншым месцы — то для работнікаў, то для хворых у вялікіх шпіталях. Гэтым прыпамінаецца людзям, патрабуючым духовае апекі, што Сам Хрыстос прыйшоў на сьвет шукаць «працуючых і абцяжаных».

✳

ХРЫСТОС — ПРЫКЛАД ГУМАНІЗМУ: У калядняй прамове ў базыліцы сьв. Петра Павал VI гаварыў аб гуманізьме, які ёсьць часта на вуснах людзей і кожны ім ганарыцца. Але сапраўдны гуманізм, годны сваей назвы, прыносіць нам Хрыстос. Найлепш аб'яўляе яго ў сваім нараджэньні, калі ў Сабе лучыць чалавецтва і Боства. Як чалавек, меў матку на зямлі і быў кволым Дзіцяткам, меў свой край і хату, так і Хрыстос стаў падобным да нас, апрача грахоў. Ягоны розум і воля былі ідэальна падданыя Богу Айцу Нябеснаму.

Сапраўды гуманізм ёсьць удзелам кожнага чалавека, адроджанага ў Хрысьце, калі жыве згодна з навукай Хрыста. Хрыстос усіх заклікае: «Людзі добрае волі, ня бойцеся быць хрысьціянамі».

✳

МАЛІТВА ПРА ЗЛУЧЭНЬНЕ: Кожны год хрысьціяне моляцца пра еднасьць у Хрысьце. Ад 18 да 25 студзеня г. г. адбываліся супольныя набажэнствы пра спалучэньне. Усё больш паглыбляецца сьведамасьць падзелу цэркваў, а Хрыс-

тос маліўся да Нябеснага Айца: «Каб усе былі адно, як Ты, Ойча, ува Мне і Я ў Табе, каб і яны былі адно; каб сьвет пазнаў, што Ты паслаў Мяне» (Ян 17, 21). Так усё больш хрысьціяне пазнаюць адны другіх, знаходзяць шмат супольнага ў веры і звычаях, што толькі выражанае ў іншых словах. Праўда, некаторыя людзі хацелі бы асягнуць лучнасьць, не зважаючы на перашкоды. Але Павал VI асьцерагае перад еднасьцяй павярхоўнай, асабліва з узгляду на дачасныя мэты.

*

ДЭКЛЯРАЦЫЯ Ў СПРАВЕ ХРОСТУ: У Францыі каталікі і пратэстанты выдалі супольную Дэрклярацыю, што між аднымі і другімі няма істотных розьніц адносна навукі аб тайне (сакраманце) хросту. У выніку чаго хрост будзе ўзаемна ўважацца за важны.

*

СУПОЛЬНАЯ СЬВЯТЫНЯ: Два біскупы — каталіцкі і англіканскі — пастанавілі збудаваць супольную сьвятыню для сваіх вернікаў у гор. Стірхлей. Яна будзе абслугоўваць 25 тысяч людзей, якія ў адпаведным часе будуць мець свае набажэнствы.

*

НОВЫ АБРАД САКРАМАНТУ ХВОРЫХ: Паводле жаданьня ІІ-га Ватыканскага Сабору устаноўлены новы обрад і зьменена назва: даўней называўся «Апошняе намашчэньне», а цяпер «Сакрамант хворых». Цяпер гэты сакрамант стаўся больш даступным: можна памазываць ня толькі ў цяжкой хваробе, але і ў значнай слабасьці і старасьці. Також алей можна ўжываць з розных расьлінаў і пасьвячаць яго.

*

ЭЎХАРЫСТЫЧНЫ КАНГРЭС: Кожныя 4 гады адбываецца сусьветны Эўхар. Кангрэс у розных краях сьвету: у 1964 быў у Бомбэі, у 1968 — у Багоце, а сёлета адбыўся 40-вы ў Мэльбурне ў Аўстраліі 18—25 лютага.

*

ПРЭМ'ЕР ІЗРАІЛЯ Ў ВАТЫКАНЕ: Голда Мэір была з візытам у Паўла VI 15. І. 1973. З жыдоўскае прэсы ў Тэль-Авіве вынікае, што Папа зрабіў закід, што жыды жорсткія да арабаў у Ізраілі. Але Мэір адказала, што жыды праз сваю ляяльнасьць зарабілі ў Кіяве і ў іншых мясцох на газавыя камэры, а гэта яна сама бачыла сваімі вачамі. Была гутарка і пра сьвятыя месцы ў Палестыне і ў Ерусаліме. Папа дзякаваў за ахову сьвятых месцаў і хрысьціянскіх памяткаў. Голда Мэір баялася, каб Папа не падняў справы міжнароднага статусу для Ерусаліму, але Папа гэтага пытаньня не закрануў. Калі пыталіся, ці прадбачаецца кантакты Ізраіля з Ватыканам далей, дык яна адказала, што трэба весьці дыялёг.

*

ВАТЫКАН І ДЫПЛЯМАТЫЯ: Прамаўляючы да дыпляматаў у Ватыкане, якія прыйшлі віншаваць пад Новы Год, Павал VI выясьніў, што Царква наладжвае сувязі з дзяржавамі таму, каб стварыць адпаведныя ўмовы для рэлігійнага жыцьця і для абвяшчаньня Евангелля на сьвеце. Прытым Царква хоча прычыніцца да адзінства сьвету — так цяпер падзеленага нязгодамі, а такжа да зразуменьня ўзаемных патрэбаў, да злагаджэньня спрэчак і канфліктаў, каб такім чынам асягнуць сапраўдны супакой. Сьв. Евангелле, якое Царква апавядае, зьяўляецца магутным сродкам у змаганьні са злом, якое дэфармуе аблічча сьвету. Царква прычыняецца да сусьветнае згоды сваімі маральнымі вартасьцямі, якімі ёсьць праўда, справядлівасьць, вольнасьць і братэрства.

*

КАНФЭРЭНЦЫЯ У СПРАВЕ БЯСЬПЕКІ У ЭЎРОПЕ: У гэтай Канфэрэнцыі дыскутуюць прадстаўнікі Захаду і Усходу, запрошаны такжа і прадстаўнікі Ватыкану — нунцый Ватыкану ў Фінляндыі. У сваей прамове ад імя Апостальскага Пасаду ён гаварыў, як Царква разумее патрэбу супакою на сьвеце, да якога стараецца прычыніцца. Гэты супакой не азначае толькі адсутнасьці вайны, але мусіць базавацца на маральных вартасьцях, паўсюдна прызнаных — на ўзаемным даверы адных да другіх і на прызнаньні аднагалосна фундаментальных прынцыпаў, якія нармуюць адносіны між дзяржавамі. Пры гэтым нунцый паясьніў, што Апостальскі Пасад не мае на Канфэрэнцыі ніякага палітычнага удзелу і не ўваходзіць у рывалізацыі, а толькі хоча прычыніцца да духовага дабра сьвету і супакою на маральных падставах.

*

АБОРТ І ЖАНЧЫНА: На аўдыенцыі для юрыстаў Папа закрануў справу абортаў: аборты супярэчаць ня толькі каталіцкай, але і агульна людзкой этыцы. Ненароджанае дзіця ўжо ад пачацьця мае душу і зьяўляецца людзкой асобай, дык мае права да жыцьця і да яго абароны, тымбольш, што яно ёсьць нявіннае і безбароннае. З грамадзкага боку узьнікае абавязак апекі над ім. І ў першую чаргу гэты абавязак цяжыць на матцы і на бацьку, як абавязак любові бацькоў да роднага дзіцяці.

Таму ніхто з людзей і самі бацькі ня маюць права падыймаць нягодную і збройную руку на маленькае дзіця бо яно ня ёсьць нічыім прад-

метам, ані ўласнасьцю аднэй маткі. Гэта ёсьць прыродны закон перад Богам і грамадзтвам. Так называны «жаночы рух», які дамагаецца права для жанчыны распараджацца сваім плодам, больш жанчынам шкодзіць, чым памагае, бо творыць выродных матак з нясьведамых і бесхарактарных жанчын праз фальшывую літасьць над імі.

*

ЯПОНІЯ: Здараюцца нярэдка выпадкі ў Японіі, што маладыя людзі, няхрышчаныя, зьвяртаюцца да каталіцкіх сьвятароў, просячы каталіцкае малітвы і жадаючы шлюбу. Гэта дзеіцца таму, што жадаюць атрымаць помач у жыцьці ад Бога. Некаторыя сьвятары згаджаліся на такія шлюбы, каб прыцягнуць прыхільных паганаў да веры. Аднак біскупы, разважыўшы дзіўныя просьбы, адказалі, што было б магчыма толькі выняткова даваць такі шлюб, але з умовай, што будуць жыць у каталіцкай этыцы і ня будуць разрываць жанімства да сьмерці.

*

ІТАЛІЯ: Нядаўна ў горадзе Флёрэнцыі адбылася сутрэча левага згуртаваньня каталіцкіх журналістаў, якія наогул крытычна былі настроены да Царквы і да яе кіравецтва. У выніку дыскусіі яны сьцьвердзілі, што няма сэнсу займацца вострай крытыкай структуры Царквы, але трэба больш прысьвяціць увагі хрысьціянскай этыцы, каб захаваць хрысьціянскія вартасьці ў рабочых і ў сялянскіх масах. Прызналі патрэбу свабоды слова і цясьнейшай сувязі з работнікамі, з сялянамі і з прафэсыйнымі саюзамі. Сустрэчу закончылі супольнай малітвай.

*

ПОЛЬШЧА: Урад нарэшце дазволіў будаўніцтва некалькіх новых сьвятыняў. Людзі тымчасам дамагаюцца новых парахвіяў і касьцёлаў, асабліва ў гарадах, якія паўстаюць пры разбудове прамысловасьці.

*

АФРЫКА — УГАНДА: Прэзыдэнт Амін адносіцца варожа да азіятаў, якія доўгія гады прабывалі ў краіне, маючы ангельскія пашпарты, канфіскуе маемасьць і павыганяў усіх, нават з пашпартамі самой Уганды. Таксама выганяе і місіянэраў, хоць шмат хто з іх улажыў сілу і працу доўгіх гадоў з вялікай карысьцяў для ўгандзкага народу.

*

ЧЭХА-СЛАВАКІЯ: Урад праз радыё прапагандуе, што нельга весьці дыялёг між комуністамі і хрысьціянамі, называючы гэта здрадай марксізму-ленінізму. Словам творыцца ваяўнічы камунізм, горшы чым у Савецкім Саюзе.

# Ці можа быць супакой на сьвеце?

Першы дзень году Царква называе «ДНЁМ СУПАКОЮ» і адпраўляецца спэцыяльнае набажэнства. Ставіцца пытаньне: «Ці можа быць супакой на сьвеце?» і ці варта для яго працаваць?

Шмат хто кажа, што войны былі і будуць, а вечны супакой — гэта мроя наіўных людзей. На доказ гэтага спасылаюцца на гісторыю, што было дасюль больш 8-мі тысяч войнаў і цяпер войны трываюць. Толькі падумаць, колькі на сьвеце закалотаў і крыўдаў — ажно войны становяцца няўхільнымі: капіталізм і камунізм, расізмы і шавінізмы, атамнае збраеньне і ракеты — усё гэта пагражае такой вайной, што прадбачыцца канец сьвету!

Адказ: праўда, шмат было войнаў, аднак былі перапынкі і цэлыя пэрыяды супакою, дый супакой бываў вынікам высілкаў людзей добрай волі, — значыць, варта і трэба працаваць для супакою. Ад апошняе вялікай вайны здарылася 50 збройных канфліктаў і войнаў, аднак у 200 выпадках нязгоду ўдалося заладзіць палюбоўна, уступіць і пагадзіцца.

ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ: Навука, тэхніка, індустрыя, прапаганда — усё гэта спрыяе вайне, але можа служыць і супакою. Індустрыя неканечна мусіць прадукаваць аружжа. Зямля можа лягчэй — пры адпаведнай культуры — пракарміць сьвет. Калі запануе дастатак, справядлівы падзел багацьця і свабода, дык і ня будзе прычынаў да рэвалюцыі і вайны, бо яны ўзьнікаюць на грунце нястачы і крыўдаў. Трэба павысіць агульны дабрабыт, а гэта прычыніцца да сталага супакою.

ЛЮДЗКАЯ НАТУРА: Чалавек лёгка схіляецца да злога і паддаецца спакусам, аднак Бог дае помач перамагчы зло і тварыць дабро; дык мы можам змагацца за супакой, каб не дапусьціць да сусьветнай вайны. Сьвяты Тамаш, выдатны багаслоў, кажа: «Чалавек створаны для любові і супакою. Супакой ёсьць плодам любові». (Сума Тэал. 2. 2. 29).

Як унутры зямлі існуе магутнае багацьце і энэргія, якая можа быць выкарыстана для вайны, або для супакою, так і душа чалавека ў сваей глыбіні мае яшчэ магутнейшыя сілы, якія могуць стварыць з чалавека анёла супакою або падабенства шатана, а з зямлі рай або пекла. Для прыкладу ўзяць людзкую любоў — такую

магутную сілу. Калі чалавек накіруе яе толькі да сябе, дык яна выраджаецца ў страшэнны эгаізм, што яго засьляпляе. А гэтая самая любоў, скіраваная да Бога і да бліжняга, перамяняе яго на Божы абраз. І ня праўда, што чалавек прымушаны стаць злым і што «чалавек — чалавеку — воўк».

БОЖАЯ ЛАСКА: Пакінуты сам сабе, чалавек астаецца бездапаможным. Нам, хрысьціянам, нельга сумнявацца, што супакой на сьвеце ёсьць магчымым. Прыбывае нам яшчэ фактар надпрыродны — Божая ласка. Яна перамяняе слабога чалавека ў магутнага змагара. І цяперназіраецца на сьвеце агульная туга па супакоі. Трэба мабілізаваць цэлы сьвет для міру і супакою. Справа супакою становіцца настойлівай і рэальнай, калі возьмем пад увагу Божую помач.

ПАТРЭБА НОВАЙ СТРУКТУРЫ: Новыя часы вымагаюць новае структуры і супрацоўніцтва. Павінен заіснаваць лад на прынцыпах дэмакратыі, каб усе грамадзяне — маладыя і старыя — усе клясы бралі ўдзел у кіравецтве і адказнасьці. Трэба прызнаць, што і цяперашнія арганізацыі і канфэрэнцыі многа прычыніліся да сужыцьця народаў. Астаецца толькі іх дасканаліць і памнажаць.

Гэтак міжнародны супакой стане магчымым і будзе «Слава на вышынях Богу, а на зямлі мір людзям добрай волі». (Лука 2, 14).

---

# *З беларускага жыцьця*

## ВЕЧАР ПАЭЗІІ КУПАЛЫ І КОЛАСА

У суботу 2 сьнежня 1972 г. адбыўся ў Лёндане ў залі Школы сьв. Кірылы Тураўскага вечар паэзіі Янкі Купалы і Якуба Коласа ў ангельскім перакладзе Веры Рыч. Ён быў зарганізаваны стараньнямі Галоўнай Управы Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі каб адзначыць 90 угодкі дня нараджэньня паэтаў.

Вечар распачаўся дакладам а. А. Надсона пра жыцьцё і творчасьць Купалы і Коласа. Пасьля былі прачытаны амаль 40 твораў, сярод якіх былі вялікія ўрыўкі з паэм «Новая зямля», «Сымон музыка» і «Безназоўнае». Праграма была прадумана так, каб даць слухачам уяўленьне аб разьвіцьці таленту паэтаў. Дэкляматарамі былі ведамыя ангельскія артысты тэатру і тэлебачаньня Трэвар Бакстэр і Розамунд Грынвуд, а таксама Бэрнард Дэніс, Джоан Марры Сімпсан і Элізабэт Анн Гарві. Студэнты Марк Саўка і Віктар Тур прачыталі некалькі вершаў па-беларуску. Кіравала вечарам і давала паясьненьні да асобных твораў сама перакладчыца Вера Рыч.

На заканчэньне было прыняцьце, вельмі смачна падрыхтаванае сп-нямі Аленай Міхалюк і Марыяй Жвірбляй. Сярод шматлікіх гасьцей былі выкладчыкі і студэнты з Лёнданскага Кэмбрыджскага і Рэдынгскага ўнівэрсытэтаў.

## КУРС БЕЛАРУСАВЕДЫ

Сёмы курс беларусаведы, ладжаны ў Лёндане Англа-беларускім таварыствам, пачаўся у аўторак 28 лістапада 1972 г. дакладам Г. Пікарды на тэму «Традыцыйная кухня беларускіх сялян». На заканчэньне ўсе прысутныя аднагалосна прызналіся, што ніколі яшчэ не адчувалі сябе такімі галоднымі, як пасьля гэтага цікавага і апетытнага дакладу.

У пятніцу 8 сьнежня а. А. Надсон гаварыў пра «Беларускія буквары XVI і XVII стагодзьдзяў».

Даклады на ангельскай мове адбываюцца ў памешканьні Таварыства антыквараў у Бэрлінгтон Гауз.

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА НА АНГЕЛЬСКІМ УНІВЭРСЫТЭЦЕ

У кастрычніку мінулага году на Рэдынгскім унівэрсытэце быў уведзены курс беларускай мовы. Выкладчыкам зьяўляецца Мр. Джэймс Дынглей.

## МІЖНАРОДНЫ КАНЦЭРТ

У нядзелю 3 сьнежня 1972 г. у Лёндане адбыўся міжнародны канцэрт, у якім бралі ўдзел розныя групы мастацкай самадзейнасьці народаў Усходняй Эўропы. Ад беларусаў выступала музычная група «Сакавік» пад кіраўніцтвам Марка Саўкі-Міхальскага.

## ПАДАРАК БЕЛАРУСКАМУ МУЗЭЮ

Беларускі мастак, сп. Міхась Саўка-Міхальскі, які цяпер жыве ў Бэльгіі, даў у падарку Бібліятэцы і музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане партрэты ягонай работы кампазытара Міколы Равенскага і а. Рабэрта ван Каувэлярта, былога апекуна беларускай студэнцкай групы ў Лювэне.

## *Пішуць да нас*

ФРАНЦЫЯ: У сувязі з тым, што з канцом году адыходжу на пэнсію пасля блізка 30-ці год мазольнае працы, якая мне забрала час і сілы, я пастанавіў напісаць да Вас. І вось прашу скрытыкаваць мой верш пад назвай «Б.К.А.», які тут і залучаю. Я пачынаў пісаць вершы, яшчэ будучы вучням Віленскай Беларускай Гімназіі, пісаў у палоне ў СССР і пісаў у пачатку эміграцыі і цяперачы. Вельмі люблю пісаць і люблю чытаць «Божым Шляхам», дзе мяне цікавяць вашыя, сказаў-бы, лёгка рымаваныя вершы.

Жадаю Вам здароўя і доўгіх год жыцьця ў вашай няўтомнай працы для Бога і Бацькаўшчыны.

*А. П.*

*

АЎСТРАЛІЯ: Паводле тутэйшых законаў, хто прарабіў на адным месцы дзесяць год, дык пасьля даюць тры месяцы поўнага водпуску. Вось тады і я, адпрацаваўшы дзесятку, дастаў той пажаданы водпуск дый хацеў-бы адведаць сяброў з лягернага жыцьця ў Амэрыцы, словам, пагуляцца па сьвеце, пабачыць сваіх родных — тры сястры па маме, ну, не абмінуць і Вас. На шчасьце й грошаў бадай што хапіла-б, але мушу сказаць: «чорт папутаў усю музыку», бо сын пабіў машыну дашчэнту — аж трэ было спраўляць новую! Так як і мая машынка да пісаньня рассыпалася — ня мог кончыць на ёй пісьма! Значыць і маё вандраваньне па сьвеце абарвалася... Дык мы ўзялі іншую ідэю — паехаць па заходняй Аўстраліі. А машына была проста неабходная, нават і дзеля пчолак, якіх мушу перавозіць, шукаючы лепшае пагоды і новых кветак. Затое і мёд даюць вельмі салодкі!

А Вы насьмяшылі нас сваім пісьмом, а найбольш маю «Разумную Алесю»... — А пагода ў нас стала вельмі сьлякотная: ужо другі тыдзень жарыць па 33 градусы. А ў нас зьмянілі тэрмамэтр на Цэльса, як і наагул усе меры. Словам, падладжваемся пад Эўропу...

І аставайцеся ўсе здаровенькія!

*К. Т.*

*

ПОЛЬШЧА: Атрымаў я з 1901 г. вельмі прыгожы гэрб акругі Полацкай — Пагоню. Апрача таго атрымаў удалую фатаграфію а. Абрантовіча і ягонае сям'і (бацькі, маці, сясьцёр). Ці Вас гэта цікавіць? Прашу пры гэтай нагодзе прывітаць ад мяне Ўладыку і ўсіх дый за нас крыху памаліцца.

*П. С.*

*

АЎСТРАЛІЯ: Ужо 25 гадоў і гэтулькі разоў прыходзіцца на чужыне сустракаць Сьвятыя Каляды. О, як урачыста і радасна мы калісьці сьвяткавалі іх на дарагой Бацькаўшчыне!

Найперш Калядны Вечар: мама варыла куцьцю з ячменных круп. Але зраньня грэла ваду і мы ўсе мыліся дый ускладалі новыя кашулі. Пад вечар бацька прыносіў з пуні пахучага сена — мурожнага, рассьцілаў на стол і крыху клаў на покуці пад абразамі. Мама запальвала перад абразамі лямпадку, тады слала на сене новы абрус і ставіла на покуці гаршчок з куцьцёй. А мы да ўсяго пільна прыглядаліся, бо хвіліна наставала ўрачыстая!

Тады станавіліся на калені і галасна гаварылі пацеры... Пачыналася вячэра. Засядаем за стол і бачым, што вокны размаляваныя рознымі ўзорамі — цудоўнымі малюнкамі, якімі мастак мароз упрыгожыў іх, узяўшы падабенства трапічных расьлінаў і кветак.

Нашая куцьця — посная, але ўсе стравы аказаліся на дзіва смачныя! Найпер мама рэзала аднаго селядца на чатыры часткі, бо й нас было чацьвёра: бацьку ад галавы, маме наступны, брату — трэці, а мне, як найменшаму, хвосьцік. Прытым мама казала: «Косьцік — хвосьцік!» На вока, здавалася, не малы кавалак, але есьці — косьці, скура — й ня было чаго, дык я яго толькі пасмактаў... — Пасьля прышоў квас з маладымі баравічкамі, тады кісель з молатым макавым малачком, нават злёгку падсалоджаным. І на апошку куцьця з мёдавай сытой...

Па вячэры бацька першы вылазіў зза стала, станавіўся перад абразамі і сам галасна маліўся, а мама за ім паўтарала і пасьля дзякавала Богу, што здаровенькія дачакалі Сьвятых Каляд, а мы з брацікам галасна паддаківалі ў іхныя малітвы й казалі «Амін»!

Тады мы, «мужчыны», адзяваліся, тата браў сякеру і мы ішлі ў сад. Месяц у поўні заліваў зелянкаватым сьветам усё навакольле, марозік пашчыпваў за нос, у твар і за вуха. Бацька падыходзіў да дзераўца — прысадзіны — і злёгку засякаў кару, гаворачы: «Сяку цябе, дзераўца, каб на кожным вяршочку было па мяшочку!» А мы з братам браліся за рукі і хадзілі навокал, прыгаворваючы: «Мы навокал хадзілі, каб вы буйна радзілі — з кожнае галінкі па дзьве — тры асьмінкі!» А бацька гаварыў: «Як зорак на небе, будзе плённы ўраджай»...

Вярталіся ў хату й мама пыталася: «Ці вы ўсе засеклі?» — «Усе-ўсе!» гаманілі мы і зараз клаліся спаць.

*

Рана на досьвітку, як толькі загаманіў звон у царкве, мы пасьпешна ішлі на багаслужбу. А часта здаралася ў гэты ранак, што сыпаўся мяг-

кі сьняжок празрыстымі пушынкамі або й сыпаў добры й густы сьнег важкімі клапцямі. Але наагул бывала ціха і ўрачыста, калі звон выбіваў сваё: «Бом-бом-бом! . .» А царква ярка асьвечана. Вернікаў прыбывае ўсё больш — ажно становіцца цесна ў царкве і цяжка было ўлезьці ў сярэдзіну, хто нябачна прыпазьніўся! Па царкве вертаемся дамоў. А мама бадай й не адпачывала ўсю ноч, рыхтуючы калядны абед. І хацела-ж быць на Багаслужбе!

А сяньня ўжо можна есьці скаромнае дый мама прытым падсмажывала ўчарайшую куцьцю, якая аказалася яшчэ смачнейшая чым учора! Тут і скваркі і тлустая капуста, каўбасы самаробныя; а ля бацькі сьвінячая галава! І ўсяго багата, як на Каляды . . .

Папалудняваўшы, бацькі лажыліся адпачыць, асабліва гэта выпадала спрацаванай маме. Ну, мы, дзетвара, зьбіраліся на лёдзе: то з горкі — на саначках, а то на рэчцы ладзілі генэральную коўзанку, — на ўбіты кол насаджвалася кола і прывязваліся сані на доўгай жэрдзі. Уставіўшы ў сыпіцы калы, калавароцілі, а санкі з вялізнай хуткасьцяй лятаілі наўкол. О, колькі было радасьці, хоць нярэдка і паплыла юшка з носу! Вечарам моладзь, зладзіўшы зорку, хадзіла калядаваць пад вокны ці па хатах. Іх гасьцілі й надавалі гасьцінцаў — аж да збытку!

*

Усё даўнейшая ў штодзённым жыцьці забываецца, але ўспамінаем Калядамі ці Вялікаднём . . . Сядзеш і пачнеш успамінаць дый пытаешся: «Божа наш, Божа! Чаму гэта ўсё так сталася, што нельга правесьці цяпер сьвята так урачыста, як дзяды-прадзеды спраўлялі? А бывала так радасна, шчасьліва ў сваей старане і з сваімі роднымі! . . . І хто таму вінаваты, што мы тут у чужым краі адзінокія і рассыпаныя? І што ня можам славіць Бога ў роднай мове і ў сваіх родных сьвятынях?

І калі мы спаткаемся ўсе свае, разам і ў Вольнай, Незалежнай ад нікога краіне, Бацькаўшчыне, на Каляды, на Новы Год і на Вялікдзень?

Божа, памажы на чужыне і ў Бацькаўшчыне кожнаму, дзе хто закінуты, каб мы маглі сабрацца дзеля твае хвалы ў адну народную сям'ю! — Амін!

*К. Ч.*

НЯМЕЧЧЫНА:

## ДАСТОЙНЫ ОЙЧА РЭДАКТАР!

Прашу выбачыць, што крыху з апазьненьнем пішу гэтыя радкі! Як штогод у Кенігштайне адбываўся Кангрэс «Царква ў бядзе!» А ў гэтым годзе мы, беларусы, мелі вялікую радасьць, бо на Кангрэс прыбыў наш Апостальскі Візытатар Ўладыка Чэслаў Сіповіч, а з ім разам быў (чаго ніколі не забуду!), а. Язэп Гэрмановіч, сэньёр беларускага духавенства, які шмат гадоў перажываў кітайскія і савецкія турмы і лягеры. Сапраўды, прыходзіцца схіліць галаву перад гэтаю асобай! Трэцім быў, як заўсёды тут, а. Ул. Салавей, скромны і мілы Мітрафорны Пратаерэй.

Тэма Кангрэсу была вельмі цікавая: «Вольнасьць Рэлігіі для ўсіх!» І так ідуць даклады адзін за другім:

І. «Што разумее Царква як рэлігійную свабоду?» Нямецкі акадэмік, трохгранны доктар, прадставіў гэтую тэму вельмі ясна і захапляюча; на жаль, тут яе нельга ахапіць, бо, каб аб гэтым пісаць, трэ было-б запоўніць некалькі старанок. А ўвечары мы мелі экумэнічныя маленьні: Каталіцкі біскуп, праваслаўны сьвятар-сэрб і эвангеліцкі пастар — супольна маліліся за супакой у сьвеце, а з імі, праняты да глыбіні душы, — маліўся ўвесь прысутны народ!

ІІ. Наступнага дня ізноў жывая тэма: «Вольнасьць рэлігіі ў камуністычнай тэорыі і ў практыцы». Далей ідуць, як у кіно, весткі з жыцьця Царквы ў СССР, у Беларусі, з Балтыкі, Украіны, Чэхіі і Славацыі, Югаславіі, Румуніі і Кітаю. Асабліва апошні даклад зрабіў на мяне вельмі моцнае ўражаньне. А Ванг-Вэйн, які ёсьць др. тэалёгіі і праф. у Кенігштайне, так цікава прадставіў усё жыцьцё ў Кітаі.

Пачынаюцца малітвы ў розных мовах: кожная нацыя чытае «Ойча Наш» у роднай мове. Ад нас — а. Гэрмановіч і прылучаемся мы ўсе разам. Пасьля кожнае малітвы запальваецца новая вялікая сьвечка. І пасьля біскуп Кіндэрман выстаўляе Сьв. Эўхарыстыю на аўтары і людзі могуць маліцца да поўначы.

Раніцай — сьв. Літургія: Уладыка Чэслаў у саслужэньні з нашымі айцамі і з украінскім дыяканам. У нядзелю: Урачыстую Літургію служыў Уладыка Платон Корныляк з грамадою духавенства.

На заканчэньне — даклад: «Вольнасьць Рэлігіі ў вольным сьвеце». Разьвітаньне. Няведама, ці ўдасца яшчэ калі сустрэцца?

Сп. С. К. забірае з сабою Ўладыку і а. Я. Г., а мы кіруемся кожны ў свой бок. Шчасьлівай дарогі! і ўсяго найлепшага . . .

20 ням. марак — на «Божым Шляхам».

*С. Г.*

АМЭРЫКА — КАЛІФОРНІЯ: Прыкра мне, што так доўга ня пісаў да Вас, але Вы напэўна думаеце правільна «чаму?» За ўвесь мінулы час і цяпер тэмпа нашага тут жыцьця не зьмяншаецца, але наадварот павялічваецца. Праўда, мяняюцца віды актыўнасьці, але сталыя цяжкасьці і праблемы ўсе з намі і патрэбы растуць, асабліва з ростам і разьвіцьцём нашых дзяцей, а сілы слабеюць з часам і з векам. Шмат блізкіх і добрых знаёмых памірае, а нямала жывых пра-

ходзяць цяжкія хваробы і наогул — розныя жыцьцёвыя выпрабаваньні. Думкі, пачуцьці і пагляды на розныя вартасьці мяняюцца. Вельмі павучальнай была перасьцярога нядаўна тут памёршага беларускага настаўніка сьв. пам. Аляксея Вініцкага, каторы радзіў нам: «Ніколі не скнарнічаць у жыцьці!» Гэта добрая для нас навука, калі мы хочам бядаваць і шкадаваць, чаму не патрапілі разжыцца і разбагацець у багатай Амэрыцы. Удава Б. В. прасіла мяне пераслаць на «Божым Шляхам» ейных 6 даляраў, якія з нашымі 4 дал. пры гэтым далучаем. Такжа перасылаю і пару выразкаў з газэты для вашай цікавасьці. Залучана і праграмка школы старшае дачкі (15 год) з яе удзелам у ігры на сцэне. Ролю выконвала, як і ўсе іншыя, бяз суфлёра. Яна маецца паехаць з драматычным гуртком у Гаваі 15 красавіка. Малодшая вучыцца танцаў (тап-дансінг) тыпова амэрыканскіх. Сын пачаў хадзіць у першую клясу пачатковай школы.

Увесь час жонка і я працуем. На рабоце вымагаюць шмат, а таму чуемся моцна змораныя пасьля работы і мала што можам зрабіць дома або для грамадзкіх патрэбаў. Усё падаражэла і далей даражэе, а падвышкі рэдкія і малыя. Маем шчасьце, што моцна не хварэем, але прастуджваемся часта, хоць у цёплым клімаце, бо пагода пераменчывая. Прыслалі нам тры здымкі з пахаваньня сьв. пам. інж. Клімовіча. У «Божым Шляхам» памылкова пададзена, што Ярэміч быў сэнатарам, а не паслом.

*Н. Ч.*

*

ЧЫКАГО: Сёньня мы атрымалі «Беларускую Думку», тут ёсьць і артыкул пастыра Пятроўскага «Да артыкулу др. Т. Падзявы». Перачытала і не разабрала. Тэлефанавалі, што нашага брата забралі карэткай у шпіталь — штосьці ўчора сталася з плячамі: зусім ня можа рушыцца і мае страшэнныя болі. Малады, прыгожы, з такой прыгожай сямейкай — толькі жыць і цешыцца, а тут беды валяцца.

І так мае слабенькае здароўе, а тут яшчэ дадатковыя хваробы. Вельмі прашу памаліцеся аб здароўе, каб Бог памог. Мы тут пра брата здароўе і хваробу не гаворым — мала хто з нашых беларускіх знаёмых моліцца. Веру, што Бог Вас лепш выслухае чым каго. Юзэфа, сястра а. Уладзімера яшчэ ляжыць у шпіталі з нагамі ў гіпсе.

Далучаю чэк на місіі ў В'етнаме, каб Бог даў ім супакой.

*М. В.*

---

*К. Чабатар*

# „...Не нарадзілася на нашай зямлі“

Нядаўна насьпела такая прыгода: дажджы ідуць, а вэранда зацякае. Малыя дзюрачкі, а ўсьцяж кап-кап-кап... Аж халера мяне бярэ! й ня ведаю, як тут па іхнаму называецца? А бляхар пытае бязумоўна дорага.

На шчасьце, знаю маладога беларуса: салідны хлапец і ў Аўстраліі навучыўся на бляхара. І спатыкаюся з ім у царкве. Але ён мае, як кажуць, такога «жучка» на пункце астранаўтаў! Дый найбольш яго цікавяць «лятаючыя талеркі»... «Ці мог-бы мне тое-й-гэта...?» пытаюся ў яго. «Чаму-ж — кажа — не? Магу! Але цяпер вельмі перапрашаю — кажа — даведаўся з газет, што недалёчка прызямліўся лятаючы талерчык. Дык я ўзяў з работы на тыдзень водпуск, каб гэтую навінку самому пабачыць».

Гавару яму: «Слухай, ну, і скажы мене, чаму цябе тыя талеркі так інтрыгуюць?».

А ён мне: «Ах, як мне хочацца пабачыць на свае вочы такую істоту, што не нарадзілася на нашай зямлі!».

«Што з ім зрабіць?» думаю сабе. Аж і прышла мне такая здагадка — й гаманю яму: «Майстар! Калі мне абяцаеш, што зробіш рамонт у маей вэрандзе, дык пакажу табе кагосьці, хто не нарадзіўся на нашай зямлі!»

Але ён круціць галавой, моршчыцца й кажа: «Хлусіш, бо-ж гэта й быць ня можа!?»

— Зусім не! Гавару табе паважна.

— «А пакажаш мне? і дасі слова...».

— О, так! Даю табе слова беларуса, што пакажу істоту жывую, якая аднак не нарадзілася на нашай зямлі.

Здаваленьне разьлілося на вачах і па твару майго сымпатычнага суродзіча й пытае:

— А пакажаш мне, як яна выглядае?

— Нічога сабе — да чалавека падобная.

— Мужчына ці жанчына?

— Здаецца, што падобная да жанчыны.

— І будзе магчыма да яе дакрануцца хоць адным пальчыкам?

— Гэтага не магу табе гарантаваць, бо можаш абарваць па зубах. Але на тваё пытаньне адкажа сама, бо й па беларуску ведае. Аднак мусіш перш прыйсьці на рамонт даху на вэрандзе — і залатаць і залютаваць...

Так мы й згадзіліся і ён прыбег у суботу пунктуальна: усё агледзіў, палатаў, прыбіў, замазаў, зьлютаваў й кажа: — А ці помніш, што мне тады абяцаў?

— Будзь цярплівы: за гадзінку жонка прывязе табе тое «цуда» не з нашай зямлі.

І майстар сумленна канчаў работу: генэральна агледзіў усю маю гаспадарку — стрэхі і падстрэшкі.

— А цяпер — кажу яму — увойдзем у хату на шкляначку піва!

Ажно якраз над'ехала й жонка й прывезла з сабою мілую, прыгожанькую, сінявокую Ганульку, як на Бацькаўшчыне вось такія васількі ў жыце бываюць. А да таго й на студыях яна высокіх, а прыехала сюды толькі да родных у госьці. Ну, пазнаёміў я іх, але мой майстар быў крыху разгублены і да мяне, шэпчучы:

— Ці-ж гэта сапраўды істота не з нашае зямлі?

— Але-ж так — кажу яму — а зрэшта спытайся яе самую: пачуеш навінку, што табе й ня сьнілася!

А яна глядзела на нас й дагадалася:

— Я сапраўды такая, што не нарадзілася на гэтай зямлі . . . Я прышла на сьвет у паветры над вялікай вадою на вышыні 32 тысяч фіт . . . . у самалёце над Антлянтыкам.

О, было нямала сьмеху, жартаў і жывой, вясёлай гамонкі.

— А як ты мяне зручна падстроіў?! і падашукаў . . .

— Ані трошкі цябе не ашукваў, бо ўсё чысьценькая праўда. Але ці ты гэтага шкадуеш?

— Дзе там?! Ужо змовіўся з ёю на пагулянку да Кінг-Рывэр: павязу сваім аўтам.

*

І вось я атрымаў запрашэньне ў Байсвотэр, дзе будуць прачытаны ў царкве аглашэньні нашых знаёмых прыяцеляў. А пасьля Багаслужбы бацькі ягоныя просяць да сябе на палудзень. А маці нашага майстра выводзіцца з Наваградчыны, дык напэўна і будуць варэнікі — пальчыкі лізаць! Шкада-бы страціць такую добрую аказію! . . .

---

# ВЕРШЫ

## НЕДАСЯЖНЫ

*Бурна шуміць акіян.*
*Я ў чоўне рыбацкім плыву.*
*Пад суровымі хвалямі —*
*рыба й каралі.*
*Нізка, пакорна*
*схіліў я сваю галаву*
*І з малітваю*
*вусны мае*
*прашапталі:*
*— Божа, ратуй і даруй.*
*Хай ня трывожыць сумлеў.*
*Харастве! Веліч! Мудрасьць!*
*Ці-ж гэта ўсё зьмерыць?*
*Ці ўсё схапіць, зразумець?*
*Голас у страху самлеў . . .*
*І адно я імкнуся:*
*Зьмірыцца і верыць,*
*Славіць Цябе і сьпяваць.*
*Песьня хвалюе мяне.*
*Я гляджу*
*на Твае нязьлічоныя цуды.*
*Што захаваў акіян!*
*Што за дзівосы на дне!*
*Вадалазам*
*да скарбаў даступна*
*ня ўсюды.*
*І касманаўту ня ўсё*
*высьветліць зорны сусьвет.*
*І ў ракеце яму не ўзьляцець да Сатурна!*
*Першы палёт над зямлёй —*
*толькі пракоўзаны сьлед.*
*А гэрой зазнаваўся*
*з пагардай, бравурна:*
*— Космас агледзіў увесь,*
*Бога ня бачыў я там.*
*Аж пустым самахвальствам*
*крычала сумленьне.*
*А да зямлі паварот,*
*мабыць ня ведаў ён сам,*
*Гэта Божая міласьць*
*і*
*багаслаўеньне.*
*Хіба-ж людзкое жыцьцё*
*не таямніцы пастаць?*
*Схамяніся душой, у нявер'і каторы.*
*Бога ня бачыць ніхто, —*
*трэба яго адчуваць*
*У сабе,*
*у істотах зямных,*
*у прасторы.*

*Рыгор Крушына*

*О, Маці Родная, о, Бацькаўшчына Беларусь!*
*Мы выйшлі шчыльнымі радамі,*
*Каб памагчы Табе парваці ланцугі,*
*Што ў муках носіш Ты, крывавячы гадамі.*

*Праз вогнішчы і па крыві праменны Сакавік*
*Нас з багны вывеў на дарогу*
*І бел-чырвона-бел затрапятаў над галавой*
*А Случчакі з магіл трубілі на трывогу.*

*У полымі вайны быў чутны стогн і крыкі:*
*«Ідзіце паміраць, каб Беларусь жыла —*
*Вас коннік з Востраў Брамы ў бітву павядзе —*
*За незалежнасьць даць жыцьцё. О, гэта, хвала!»*

*І шмат шчасьлівых у змаганьні палягло,*
*А нешчасьліўцы у Сібіры дагараюць:*
*Для нас жыве ў змаганьні Беларусь —*
*Хай ворагі аб гэтым добра знаюць.*

*Браты, мы — косткай ў горле маскалям,*
*Мы — сольлю ў воку для палякаў,*
*Дый перад Богам клятву мы даём —*
*Змагацца аж да сьмерці супраць катаў!*

*Свабодны будзе наш народ дый незалежны —*
*Наш сын сьвядомы й наш унук —*
*Па сьцежцы вытаптанай у вайне мяцежнай —*
*Наш сьцяг мы не папусьцім з рук!*

*Змагаймося, а перамога перад намі!*
*Памерці лепш стая, чым на каленях жыць:*
*Ўсход Сонца ўжо не за гарамі,*
*А вораг прад сканаНьнем задрыжыць . . .*

*А. Пярун*

Беларуская
Краёвая
Абарона.

---

# Чорт са сьмерцяй — Дыялог

*Раз чорт са сьмерцяй паспрачаўся,*
*Хто самы з іх мацнейшы?*
*— О, я! — так чорцік адазваўся:*
*— Я сто разоў дужэйшы.*
*А праўду я скажу Вашэці,*
*Што я — дыктатар на ўсім сьвеце.*

СЬМЕРЦЬ:
*Ты лжэш, сабака, чорт праклятьі!*
*Ты лжэш ад веку, як наняты. —*
*— Вы, добрыя, пабачце, людзі,*
*Як лгун нам праўду плесьці будзе! —*
*Ну, гавары, а мы пабачым*
*І ўсё, як мабыць, тут адзначым . . . —*
*Да чорта лезе, хто захоча,*
*Як чорт ім розум замароча:*
*Да сьмерці, хто у сьвеце бродзіць,*
*Ня хоча, плача, а прыходзіць.*

ЧОРТ:
*О, ты — прымусам,*
*Я — спакусай:*
*Тэррорам ты бярэш, нядоляй,*
*А я — свабоднай, вольнай воляй.*

СЬМЕРЦЬ:
*Тваё ярмо разумны скіне,*
*Але ў мяне і мудры згіне,*
*І слабы і хто мае сілу,*
*Кладуцца згодна у магілу.*

ЧОРТ:
*Ты мучыш, гоніш у хваробу,*
*А трупаў валачэш да гробу;*
*А я у пекле, так як дровы,*
*Крышу вясёлых і здаровых!*

СЬМЕРЦЬ:
*Ну, дурні да цябе бягуць,*
*А, награшыўшы, ўсе клянуць,*
*А ў рукі, у мае худыя*
*Плывуць старыя й маладыя.*

ЧОРТ:
*О, ты ад Бога сілу маеш —*
*Так цэлы сьвет ў руках трымаеш;*
*А мне, чарту, ні моцны Божа —*
*Ніхто й ніколі не паможа!*

СЬМЕРЦЬ:
*Ты ловіш, путаеш ахвяры*
*І праз спакусы і праз чары;*
*Я-ж каралева на ўсім сьвеце*
*І людзі ўсе ў маей саеце.*

ЧОРТ:
*Ну, і вар'ятка ты старая!*
*Ці-ж моцы ўсей маей не знаеш? —*
*Паную я над вольнай воляй,*
*А ня ўступаю аніколі.*

СЬМЕРЦЬ:
*Скрадаешся, як воўк, як злодзей*
*І ў цемры, ў ночы падыходзіш;*
*А я, як львіца, сілу маю*
*І, як лучынку, ўсіх шчапаю!*

ЧОРТ:
*Табе ніхто нідзе ня верыць*
*Дый шчыльна зачыняюць дзьверы;*
*Як Богу, мне кладуцца дары*
*І каралі нясуць ахвяры.*

СЬМЕРЦЬ:
*Мяне і клічуць і чакаюць —*
*Аж Дабрадзейкай называюць!*
*Цябе старыя і малыя*
*Клянуць і добрыя й благія . . .*

ЧОРТ:
*Ах, ведзьма ты, што ты мне баіш?*
*Бо людзі мне (ці-ж ты не знаеш?),*
*Паклоны б'юць і молюць, просяць —*
*Падаркі вялізарны носяць . . .*

СЬМЕРЦЬ:
*Чартоўскі імя скрозь праклята —*
*Аж так у будні, як у сьвята,*
*Як ад халеры, ад заразы*
*Усе бягуць, як ад праказы!*

ЧОРТ:
*О, сьмерць! Ты — мілая сястрыца —*
*Сьпявуха, салавей, сініца! —*
*Аж сьвет і з цнотамі, з грахамі*
*Скрыгоча на цябе зубамі!*

СЬМЕРЦЬ:
*О, я да ўсіх прыходжу яўна!*
*Я — родная, я — старадаўна:*
*Падступны ты, фальшывы, скрыты*
*І подласьці сваей нясыты.*

ЧОРТ:
*Скажу я праўду: мы чамусьці —*
*Ні я, ні ты людзям ня ў гусьце?*
*Я — прыгажун, а ты — чароўна,*
*А намі брыдзяцца ўсе роўна . . .*
*І толькі ты мне дапаможаш,*
*Як чалавека ў гроб палажыш.*

СЬМЕРЦЬ:
*Я мушу браць — я маю меру,*
*Ці хто сьвяты, ці страціў веру:*
*А грэшных у цябе багата,*
*Дык я у тым не вінавата;*

*А людзі мелі-бы надзею,*
*Каб чорт спакусаў так ня сеяў . . .*

*

*Даём Вялікі — «Дзякуй Богу!»*
*Мы бачым, маючы трывогу,*
*Што сьмерць і чорт так з нас сьмяюцца*
*І лаюцца і век злуюцца;*
*А мы устанем з сьмерці ценяў,*
*Каб жыць навекі ў Божых сенях!*

*

Паводле сьв. Эфрэма Сырыйскага (пам. у 373) улажыў а. Я. Г.

---

# Адказным людзям пад развагу

Зьявішча сьмерці зьяўляецца найболей паважным выдарэньнем у жыцьці чалавека.

Кажны чалавек на працягу свайго жыцьця праходзіць розныя фазы настаўленьня да зьявішчаў фізычнага і духовага сьвету. Малое дзіцянё пераважна занята ўвагаю вонкавага сьвету, у які яно пачынае ўваходзіць. Малады чалавек, аддадзены свомай яму энэргіі, заняты ўсім іншым толькі ня зьявішчам сьмерці. Ён ня часта нават здагадваецца, што гэтакае нешта існуе на сьвеце, а калі існуе, можа абавязваць кажнага іншага, але не яго.

І толькі на захадзе свайго жыцьця ў чалавеку будзіцца глыбейшая склоннасьць да паважнае думкі. Цяпер пачынае ён разумець, што тое, што ён чуў данядаўна, паймення, што жыцьцё зьяўляецца кароткім, пачынае прыймаць у ім нейкі сэнс. Цяперака ён запраўды вычувае, што жыцьцё ёсьць кароткім. Усё тое доўгае было толькі ўчора; сягоньня — час разважаньняў, а заўтра — наагул не належыць да яго.

Апошнім часам на бачынах беларускае прэсы спатыкаем што раз часьцей нэкралёгі аб сьмерці ведамых нам людзей. Памер добры беларус . . ., памер доктар . . ., памер сьвятар . . ., памер . . . — Блізкія нам людзі, мы іх ведалі, разам маршыравалі ў долі і нядолі. Разам працавалі, разам дыскутавалі, разам сварыліся, разам мірыліся, каб зноў ісьці супольна на шляху, на якім прысвячала нам беларуская ідэя, тая самая ідэя, якая была і ёсьць нашаю пуцьцяводнаю зоркаю.

Гэтыя разважаньні прыводзяць нас на думку суадносінаў нас самых да часу, нас самых да нашае ідэі і працы, зьвязанае зь ёю, і нашае будучыні ў гэтым аспэкце.

Калі чалавек выбіраецца ў доўгую дарогу, тым, што астаюцца за ім, ён хоча сказаць нешта важнае, магчыма найважнейшае. Ён хоча зрабіць яшчэ апошнія загáды, каб упарадкаваць палажэньне рэчаў, зьвязаных з гэтым доўгім падарожжам.

Адзін з нашых рэдактараў, падаючы вестку пра сьмерць аднаго з нашых суродзічаў, кажа, што нябожчык «не пасьпеў распарадзіцца ні домам, ні іншай, хоць невялічкай, маемасьцяй». Распараджаньне матэрыяльнаю маемасьцю мае сваё значаньне. Але існуюць іншыя гэтаксама вартасьці.

Ад часу Другое сусьветнае вайны мінула ўжо чэцьверць стагодзьдзя. Напярэдадні гэтага часу беларуская эміграцыя перажывала свой малады

век, ня думала пра старасьць і аддавалася поўнасьцю працы. Малады век, як і кажны іншы, ня мае сталага стану. Часта чутно паміж людзьмі памылкавае выражэньне: Час хутка мінае. Час стаіць. Тое, штó ў ім мінае — гэта людзі. Усё іншаее і людзі будуць мінаць.

Мы можам абярнуцца і паглядзець на пройдзены шлях нашае дзейнасьці і зрабіць падсумаваньні. Ці можам мы зірнуць наперад і зрабіць прагнозу прышлае беларускае працы на эміграцыі наагул?

Калі дваццаць пяць гадоў таму мы прыйшлі на нашае новае месца пасяленьня абдзертымі і поўгалоднымі, мы ўсё-ж прыйшлі з багацьцем нашае вызвольнае думкі, якую мы асьцярожна несьлі ў нашым сэрцы.

Гэтым паясьняецца, чаму паўсталі сярод нас арганізацыі, газэты, часапісы, зьявіліся кнігі, паявілася тая самая праца, як маніфэстацыя нашага ідэалу і нашых нацыянальных сьвятасьцяў... Але нэкралёгі сягоньня гавораць нам, што гэтае зьявішча ня мае гарантыі на прышласьць, хіба-што сягоньня будуць чыніцца прыгатаваньні на заўтрашні дзень. Ці чыняцца сягоньня распараджаньні ў гэтым сэнсе? Ці пісьменьнікі маюць на воку маладых нашых людзей, якім яны перакажуць свой сьветач? Ці рэдактар, абцяжаны сягоньня мінулаю працаю і жыцьцёвым дазнаньнем, прадбачыць, як будзе выглядаць ягоная публікацыя заўтра? Ці старшыня арганізацыі вядзе сваю дзейнасьць так, каб абясьпечыць спраўнасьць працы пасьля таго, як будуць сказаныя прыгожыя словы над ягонаю сьвежаю магілаю? Ці дадзеная царква робіць адпаведныя натугі з мэтаю падрыхтаваньня болей адукаваных людзей, якія разам са сваім зграмаджэньнем учыняць школу надзеі і характару для тых, што пяройдуць у заўтрашні дзень?

Да гэтае пары ў гэтым дачыненьні мы бачым толькі адно характэрнае агалошаньне, аблічанае сваім зьместам на прышласьць:

«У школу могуць быць прынятыя хлопцы беларускага паходжаньня ў веку ад 8 да 12 гадоў».

Гэта ёсьць распараджаньне на прышласьць і мы можам толькі шкадаваць, што агалошаньне гэтае адзіным у нас зьяўляецца.

Як будзе выглядаць беларуская праца ў дыяспары за дзесяць гадоў ад сягоньня?... за дваццаць?...

Час гэты не далёкі. Ён стаіць ужо на парозе.

*Пастар Ян Пятроўскі*

---

# Думкі з кніжак

Паэт Язэп Бродзкі, выдалены з Саветаў заграніцу, пісаў:

СУДЗЬДЗЯ: — Хто вызначыў, што ты паэт? — Хто цябе залічыў у рады паэтаў? —

БРОДЗКІ: — Ніхто. А хто залічыў мяне ў рады людзей? —

*

Шкада траціць час, бо час нам даецца толькі аднойчы. Для пісьменніка існуе толькі адна мерка патрыятызму... што ён піша ў мове народу, сярод якога жыве.

Я ня веру ў палітычныя рухі. Я веру ў асабісты рух душы, калі чалавек гляне на сябе і заўстыдаецца дый пастараецца дабіцца перамены ў самым сабе, а ня вонках сябе.

Нам кажуць, што сьвет уладжаны дрэнна і што трэба яго перарабіць, накіраваць у той ці іншы бок. А тымчасам справа такая, што сьвет сам сабой ня ёсьць благі, нат можна сказаць, добры. І калі сапраўды нешта трэба перамяніць, дык ня сьвет, але нас самых.

Літаратура стала цэнтрам духовага жыцьця народу, судзьдзёй ягонае маралі, характару.

Перакладамі я зарабляў на жыцьцё... Работы заўсёды было шмат, нат залішне шмат, так што часамі ў мяне не аставалася часу для сваёй справы, значыць, для вершаў. Мяне ня лішне турбувала тое, што маіх вершаў ня друкавалі. Найперш таму, што паэзія — гэта спосаб бачыць рэчы, жыцьцё, а гэта ня ёсьць справа друкарскае прамысловасьці. Бяз сумніву, мне прыемна было бачыць свае вершы надрукаванымі, але куды цікавей проста пісаць і думаць... —

(Р. Мысль. 16 (XI) 1972, № 2921, Парыж).

---

## *Прыслоўі і прымаўкі*

Хацела баба забіць лося дый не ўдалося!
Усе бабры дабры, толькі адна выдра ліхая.
Балота бяз чорта, а чорт бяз балота ня будзе.
Ляцела, як хацела, а ўпала, як Бог даў.
Валі на бурага, буры павязе!
Між гурту выбраў сабе курту.
Падняў высока, дый нічым не падпёр.
Ня бацька купіў і ня сын падганяе.
Хто парасё украў, у таго ў вушах пішчыць.
Калі да цябе ня п'юць, не кажы «на здароўе!»
Сем лет прала, сем лет ткала, тры дні шыла, а да абеду знасіла...
Пускайся, куме, на дно — не трать дарма часу!

# Загадкі

(Адгадкі будуць у наст. №)

1) Маю чатыры нагі,
Але лёс мой благі:
Хто і колькі захоча,
Мяне мучыць у ночы,
Хоць заплюшчыўшы вочы.

*

2) Хоць на мне пішуць,
Хоць аркушаў сто —
Я-ж ня ведаю што?

*

3) Чужую адзежу хавае,
А сваей ня мае,
І ён — ня зloддзей, —
Дык хто ён такі?

*

4) Дзень ня есьць,
Ноч ня сьпіць:
Нічога ня робіць,
А грошы даюць.

*

5) Найгоршы ашуканец:
Яго ўсе празываюць,
А яму памагаюць...

*

6) Трымае й трывае.
Сядзіць цэлы век...

*

7) Яго людзі носяць,
А ён сам ходзіць.

8) Як яго ўвідзіш,
Дык сябе ўбачыш.

*

9) Кладуць на нос,
А вачам памагае.

*

10) Ня стрыжэцца, ня чэшыцца,
А з гэтага ня цешыцца.

*

11) На выстаўцы намаляваная прыгожая рука, але людзі — адны сьмяяліся, а другія злуюцца. Што гэта?

*

12) У пацёмках сяджу,
На людзей гляджу:
Там сьмяюцца, ці плачуць,
А мяне не бачуць... Што гэта?

*

13) Якая вада плавае па небе?

*

14) Стаіць бяз ног:
Як крыльлямі памахае,
Людзі хлеб ядуць.

*

15) Як стаіць, дык ідзе.
Сам ня ведае, што паказвае:
Рана спаць не дае —
Вечарам затое кручу за вуха.

---

# Прыгодныя жарты

РЫМ—ВАТЫКАН: Адзін кардынал (з малодшых) спытаўся Паўла VI-га:

— Ці праўда — кажуць, што Папа, як скончыш 75 гадоў, думаеш зрачыся ад Апостальскага Пасаду?

— Папа яму адказаў: — мае папярэднікі жылі і звыш 90 гадоў дый ня думалі зракацца. Дык і я, як дажыву да такога веку тады добра падумаю.

*

АМЭРЫКА: Як Мак-Гаврэн прайграў выбары, дык павіншаваў Ніксана, што той выйграў. А Ніксон паслаў сказаць Гавэрну: «Я ўсё яму дарую, што ён мяне лаяў перад выбарамі».

«Што-ж ён мне дарує? А хто мне грошы *верне?*» — адказаў Мак-Гавэрна.

*

НЯМЕЧЧЫНА: Пасьля памысных выбараў БРАНТ сказаў: «Мой праціўнік Бар-цэль добра ц э л і ў , але дрэнна стрэліў».

*

ЯПОНІЯ: Японскі І-ы міністар вярнуўся з Пэкіну. Яго карэспандэнты пыталіся: «Як вы з кітайцамі дагаварыліся?»

«Як кот з сабакам!» Адказаў ТАНАКА.

МАСКВА—ПЭКІН: Тры жонкі «Маскоўскае Тройкі» пісалі да жонкі Мао-Цэ-Дуна: «Нашыя мужы ў Крамлі аж хварэюць, ня могучы памірыцца з Пэкінам. Будзь добрая, скажы свайму мужу, каб ён з Масквой пагадзіўся!»

І жонка кітайскага Сакратара зараз адпісала: «Мой разумны муж казаў вам адказаць: — Сядзіце, бабы, ціха!»

Падпісала: «Ма-Цэ-Ду-Ні-Ха»

✳

КРЫЗЫС КАПІТАЛІЗМУ: На ЗАХАДЗЕ мільярдэры наракаюць, што ня могуць выйсьці з крызысу, бо ім мільянэры не памагаюць!

А мільянэры скаржацца на меншых кліентаў. — І так, спускаючы ніжэй, бяднейшыя не ўспамагаюць багацейшых — ажно наступіць катастрофа!

Затое на ЎСХОДЗЕ ніхто на нікога не наракае, бо ўсе там роўныя ажно гісторыя назаве гэты пэрыяд «Залатым Векам Камунізму».

— А чаму збожжа купляюць на Захадзе?

— Бо Захад трэба ратаваць ад катастрофы...

✳

В'ЕТНАМ І АМЭРЫКА:

Мірыўся Ніксон у В'етнаме,
Як грэк спрэчку меў з цыганамі.

✳

ІЗРАЕЛЬ У ВАТЫКАНЕ:

Як Папа грымеў мала-мала,
Дык Голда пакорна ўздыхала.

---

ЗЬМЕСТ:


а. Т. Падзява: Добрая Навіна (Катэхэзы) . . . . . . . . 1
а. Аляксандар Надсон: Еўеўскі Буквар 1618 г. . . . . . . . 3
Я. Запруднік: Каталіцкая Царква на Беларусі і беларуская мова . 9
Ч. С.: На кніжнай паліцы:
Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя . . . . . . . 11
Гравюры Францішка Скарыны . . . . . . . . 12
Берасьцейская Вунія (В. Пануцэвіч) . . . . . . 12
Вялікалітоўская кухарка . . . . . . . . 12
The Journal of Byelorussian Studies . . . . . . . 13
Беларуская Моладзь . . . . . . . . . . 13
З царкоўнага жыцьця . . . . . . . . . . 13
Ці можа быць супакой на сьвеце? . . . . . . . . 15
З беларускага жыцьця . . . . . . . . . . 16
Пішуць да нас . . . . . . . . . . . 17
К. Чабатар: «... не нарадзілася на нашай зямлі» . . . . . 19
Вершы: Недасяжны. (Рыгор Крушына) . . . . . . 20
Б.К.А. (А. Пярун) . . . . . . . . . 21
Чорт са сьмерцяй — дыялёг. (а. Я. Г.) . . . . . . 21
Пастар Ян Пятроўскі: Адказным людзям пад развагу . . . . 22
Думкі з кніжак . . . . . . . . . . . 23
Прыслоўі і прымаўкі . . . . . . . . . . 23
Прыгодныя жарты . . . . . . . . . . . 24


---


Druck: „Logos" GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, 8 München 19, Bothmerstr. 14